PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 41 (2265) Год XLIV Беласток 10 кастрычніка 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Галоўная справа — мова

**Выступленне Віктара ШВЕДА на V З'ездзе выпускнікоў Бельскага беларускага ліцэя 25 верасня 1999 г.**

Дарагія сяброўкі і сябры!

Усё сваё дарослае жыццё аддаў я беларускай ідэі. Мая паэзія прасякнута нацыянальнай тэматыкай. Мноства вершаў прысвяціў я айчыне, свайму народу, роднай мове. Найбольшым нашым скарбам з'яўляецца мова, без якой няма этнасу, народу, нацыі. Заўсёды надта балюча перажываю я з'явы, калі беларусы адракаюцца сваёй мовы, сваёй нацыянальнасці. Пісаў я і пішу надалей вершы для дарослых і для дзяцей. Выдаў восем паэтычных кніжак, з якімі езджу ў сваё асяроддзе, дзе правёў звыш тысячы аўтарскіх сустрэч з намерам прывівання любові да свайго роднага, стрымання працэсу гвалтоўнай асіміляцыі. На жаль, усе мае паўвяковыя намаганні аказаліся донкіхоцтвам, барацьбой з ветракамі, якія ўжо таксама знікнулі з нашых краявідаў. У нашым вясковым асяроддзі людзі яшчэ размаўляюць па-свойму, аднак калі іх заклікаецца, на рознага характару грамадскіх мерапрыемствах, да століка з беларускімі выданнямі, яны найчасцей сцвярджаюць, што не ўмеюць ужо чытаць па-беларуску. Нічога тады дзіўнага, што падаюць тыражы беларускамоўных часопісаў і колькасць школ на Беласточчыне, у якіх беларуская мова выкладаецца як неабавязковы прадмет.

Таму самай галоўнай справай у далейшым існаванні нашай нацыянальнай меншасці з'яўляецца навучанне беларускай мове. На жаль, з яе навучаннем дрэнна ў нас, і не лепш у Беларусі. (...)

Калі ў 1918 годзе ў Заходняй Беларусі налічвалася больш за 350 беларускіх школ, падчас польскай тут улады у 1924/1925 навучальным годзе не было ўжо аніводнай беларускай народнай школы.

У пасляваенны перыяд, ужо ў 1944 годзе, пасля вызвалення Беласточчыны ад гітлераўскай акупацыі, пачалося аднаўленне беларускіх школ на падставе пастановы Польскага камітэта нацыянальнага вызвалення, якая давала беларускаму насельніцтву Беласточчыны права на асвету на роднай мове. Але неўзабаве было спынена ажыццяўленне гэтай пастановы на падставе акцыі перасялення беларусаў з Польшчы ў БССР. Рэпатрыявалася з Беласточчыны толькі невялікая частка беларускага насельніцтва, таму не было гэта аргументам, якім у 1946-1947 гадах кіраваліся асветныя ўлады пры ліквідацыі беларускага школьніцтва на Беласточчыне.

Сярод ліквідаваных школ адной з першых была Гайнаўская беларуская гімназія, у якой я тады вучыўся. Пасля першага навучальнага года 1944/1945 закончыла яна сваю працу арыштам яе

[працяг ☞ 3]



*Сярод гасцей V З'езда — былы прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч (у цэнтры, з дырэктар Зінаідай Навіцкай).*

# Нам паратунак у вяртанні да каранёў

Аляксей МАРОЗ

„Наш паратунак у замацаванні гістарычнай самасвядомасці, вяртанні да сваіх каранёў, беларускай мовы і нацыянальнай годнасці. Хто не паважае самога сябе, таго і не паважаюць іншыя", — гэтыя словы былога дырэктара, пакойнага Міколы Гайдука, зачытаў на З'ездзе выпускнікоў Бельскага беларускага ліцэя старшыня Беларускага саюза ў Польшчы Яўген Вапа. Гэтыя словы актуальныя і сёння. Хвілінай маўчання ўдзельнікі З'езда ўшанавалі памяць дырэктараў Бельскага і Гайнаўскага белліцэяў Яраслава Кастыцэвіча, Міколы Гайдука, Аляксандра Іванюка, настаўнікаў і выпускнікоў. Жывая ў памяці выпускнікоў асоба дырэктара Міколы Гайдука прывяла на думку ідэю стварыць фонд ягонага імя, які дапамагаў бы белліцэю.

V З'езд выпускнікоў Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім праходзіў з 25 па 26 верасня г.г. Лісты з віншаваннямі даслалі прэзідэнт Рэчы Паспалітай Аляксандр Квасьнеўскі і мітрапаліт Сава, а з запрошаных гасцей прыбылі, між іншым, былы прэм'ер Уладзімеж Цімашэвіч, генеральны консул РБ Мікола Крэчка, пасол Ян Сычэўскі, епіскап Бельскі Грыгорый і бурмістр Бельска-Падляшскага Андрэй Сцепанюк.

Сустрэча былых белліцэістаў распачалася Літургіяй у Прачысценскай царкве, якую ўзначаліў уладыка Грыгорый. Затым пад 300 удзельнікаў З'езда сабраліся ў спартыўнай зале белліцэя. На ўрачыстасці прысутнічалі таксама прадстаўнікі самаўрадавых структур, школьніцтва, культуры і прадпрымальніцтва, праваслаўныя і каталіцкія святары.

Школьным званком і пажаданнямі добрых успамінаў ад сяброўскіх сустрэч З'езд адкрылі старшыня Арганізацыйнага камітэта Анна Тапалеўская і выпускнік Мікола Сычэўскі, а пажаданні і віншавальныя лісты зачытвалі журналістка тэлеканала Паленія Маргарыта Пракапюк і кіраўнік перадачы Тэлеэкспрэс Веслаў Раеўскі — таксама выпускнікі белліцэя.

Першай асобай, якая выступіла пасля афіцыйнага адкрыцця, была дырэктар Зінаіда Навіцкая. Падкрэсліла яна, што з V З'ездам супала некалькі дат: 55-годдзе з дня заснавання школы, 50 гадоў з дня аднаўлення ліцэя пасля трохгадовага перапынку і 25 гадоў ад I З'езда выпускнікоў. Падкрэсліла яна, што дзякуючы сімпатыкам і людзям добрага сэрца змяніўся выгляд школы, паявіўся новы фасад, новыя вокны, аднавілі спартыўную залу, нанава агарадзілі школу і перад уваходам палажылі асфальт. Многа здзейснілася, дзякуючы асабістай ангажаванасці прэм'ера Уладзімежа Цімашэвіча і бурмістра Андрэя Сцепанюка. „Белліцэй — сімвал нашага горада", — сказаў бурмістр, а прэм'ер Цімашэвіч заўважыў, што школа сама заслужыла на дапамогу сваімі поспехамі ў вучобе.

**Наш паратунак у вяртанні да каранёў**

— Тут мяне навучылі цаніць свае карані, — гаварыў Ян Палавянюк, выпускнік з 1983 года, выкладчык Вышэйшай музычнай школы ў Ольштыне. З чуллівасцю ўспамінаў сваю дзейнасць у беларускім гуртку „Разбуджаны го-

[працяг ☞ 3]

## Пачынаецца час вяртання

Толькі што выйшла з друку кніга „Вяртанне да сваіх", у якой Сяргей Чыгрын сабраў паэтычныя і празаічныя творы С. Грынкевіча, Ф. Грышкевіча і У. Казлоўшчыка. Творчасць заходнебеларускіх літаратараў раскінута па розных выданнях, архівах і бібліятэках Польшчы, Чэхіі, Літвы, Латвіі, Беларусі. Усё гэта трэба адшукваць і выдаваць.

[*інтэрв'ю з С. Чыгрыном* ☞ 4]

## На радзіме прэзідэнта

На шчасце прыгадалі яны яшчэ адну сваячку Васіля Захаркі. Паказалася, што мы — першыя журналісты, якія завіталі ў Дабрасельцы. Да гэтай пары ні адзін гісторык, ні журналіст не пацікавіліся сваякамі прэзідэнта, яго роднай вёскай. А тут на кожным кроку сваякі Васіля Захаркі.

[*з вандровак па Беларусі* ☞ 5]

## „Пан Тадэвуш", Міцкевіч і Вайда

Здзіўляе мяне толькі, што беларуская тэматыка амаль адсутнічае, калі гаворка ідзе пра Вялікае княства Літоўскае альбо таго ж Міцкевіча. Не ўспамінаю вышэйапісанай імпрэзы, дзе можна было пачуць, што „Міцкевіч нарадзіўся на тэрыторыі цяперашняй Беларусі, тады гэта былі Літва".

[*неадукаванасць* ☞ 8]

## Па слядах мінулага

Цяжка адназначна вызначыць час узнікнення ў Суражы царквы, аднак можна меркаваць, што існавала яна падчас панавання рускіх князёў. Дакумент ад 1528 г. сведчыць пра спрэчку паміж суражскім плябанам і мяшчанамі *греческаго закону* за дзесяціну. У 1562 г. у рэестры былі зафіксаваны цэрквы св. Спаса і св.св. Пятра і Паўла.

[*гісторыя* ☞ 9]

## Сцяна Еўропы

Паварочваю ў Вераб'і. На палосцы перад вёскай двое пажылых людзей збіраюць бульбу. На канцы палоскі стаіць трактар з капалкай. Спыняюся перад школьным будынкам. Навокал — жывое душы!

[*рэпартаж* ☞ 10]

## Прыродазнаўчы турызм

Турыстаў прымаюць таксама жыхары Нараўкі, Семяноўкі, Ляўкова і Міклашэва ў агракватэрах. Турызм будзе развівацца, хаця цяжка разлічваць, што стане ён галоўнай крыніцай даходу жыхароў.

[*агратурызм* ☞ 11]

# Беларусь — беларусы

## Расколу БНФ ніхто не хацеў

Нават пасля 26 верасня, калі адбываўся з'езд партыі БНФ, які быў арганізаваны прыхільнікамі Зянона Пазьняка і не быў прызнаны яго апанентамі па Сойме, абодва канфліктуючыя бакі спрабуюць зрабіць выгляд, што Народны фронт застанецца адзіным. Аднак тое, што арганізацыя, з якой тысячы беларусаў звязвалі надзею на нацыянальнае адраджэнне, падзялілася, стала рэальнасцю.

Калі Зянон Пазьняк у 1996 годзе эміграваў з Беларусі, практычна ўсе сябры БНФ падтрымалі гэта і пагаджаліся на тое, што лідэр арганізацыі кіруе імі з-за мяжы, а кіраўніцтва на радзіме ажыццяўляе намеснік старшыні Лявон Баршчэўскі. Аднак паступова частка фронтаўцаў, асабліва сяброў Сойма, пачала выказваць незадавальненне такой сітуацыяй. Яны лічылі, што Зянон Пазьняк не зусім дакладна арыентуецца ў становішчы на Беларусі і яго загады не заўсёды рэальныя для выканання. Са свайго боку старшыня БНФ сцвярджаў, што падтрымлівае дасканалую сувязь з радзімай і дакладна ведае якой павінна быць дзейнасць Фронту.

Кульмінацыяй канфлікту сталі вясновыя „выбары прэзідэнта", калі літаральна за некалькі дзён да іх завяршэння Пазьняк загадаў фронтаўцам спыніць свой удзел у акцыі. Тады шмат сяброў БНФ, якія цягнулі на сабе галоўны цяжар падрыхтоўкі выбараў і ўключыліся ў выбарчую кампанію разам з Пазьняком, палічылі сябе падманутымі і не выканалі распараджэння старшыні.

Да VI з'езду руху БНФ „Адраджэнне" арганізацыя па сутнасці падзялілася на людзей адданых Зянону Пазьняку і тых, хто лічыў, што ў кіраўніцтве арганізацыі павінны адбыцца змены. Прычым у другую групу ўвайшло шэраг рэгіянальных актывістаў БНФ, якія некалькі месяцаў назад былі на баку Пазьняка. Як вядома, на з'ездзе лідэр Фронту не быў абраны. Галасы дэлегатаў падзяліліся на дзве амаль роўныя часткі паміж Зянонам Пазьняком і Вінцуком Вячоркам. У выніку Сойм перанёс заканчэнне з'езду на 30-31 кастрычніка.

Зянон Пазьняк і яго прыхільнікі вырашылі правесці ў верасні з'езд партыі БНФ. Вынікам яго стала з'яўленне новай назвы арганізацыі „Кансерватыўна-хрысціянская партыя — Беларускі Народны Фронт". Старшынёй аднадушна быў абраны Зянон Пазьняк. Яго намеснікамі сталі Юры Беленькі, Мікола Анцыповіч, Сяргей Папкоў і Уладзімір Старчанка. У Сойм абраны 45 чалавек, у тым ліку такія вядомыя людзі як Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін. Аднак на з'ездзе яны не прысутнічалі. А спадар Барадулін 28 верасня распаўсюдзіў наступную заяву: „Я, Рыгор Барадулін, прызнаю Статут БНФ „Адраджэнне" і Статут партыі БНФ без усялякіх зменаў і ў тым ліку ў назве партыі. Гатовы працаваць у Фронце і яговых органах, калі З'езд партыі і руху пройдуць адначасова і выберуць агульнае кіраўніцтва. Я быў, ёсць і буду супраць расколу Фронту ні пры якіх варыянтах. Толькі адзінства — наша сіла!". Па словах апанентаў Пазьняка, такой жа думкі прытрымліваецца і Васіль Быкаў. У дадатак яны лічаць, што паўнамоцтвы дэлегатаў верасьнёўскага з'езду сумнiўныя і ўсе „кропкі над і" павінен раставіць кастрычніцкі з'езд руху і „сапраўдны" з'езд партыі БНФ.

„Пазьнякоўцы" не супраць гэтага і збіраюцца прыняць актыўны ўдзел у з'ездзе. Але, на думку Пазьняка, „менавіта партыя робіцца асновай і грунтам руху".

На жаль, унутрыфронтаўская спрэчка суправаджаецца ўзаемнымі абвінавачваннямі ў падмане, немаральнасці і г.д. Як сказаў карэспандэнту „Нівы" адзін з радавых сяброў БНФ: „Не вядома, што робіцца! Пачытаеш пасланні Пазьняка, здаецца ён праў. Паслухаеш Вячорку, Баршчэўскага, Хадыку і Сіўчыка, дык і яны маюць рацыю".

**Зміцер Кісель**

## Юрыдычныя экстравагантнасці

Барыс Ельцын адобрыў праект дагавора з Беларуссю аб стварэнні саюзнай дзяржавы. Публікацыю для ўсенароднага абмеркавання і абагульненне заўваг і прапаноў з выніковым дакладам прэзідэнт даручыў Уладзіміру Пуціну, Адяксандру Валошыну, Ігару Іванову і міністру па справах садружнасці Леаніду Драчэўскаму. Дата публікацыі ўзгадняецца цяпер з беларускім бокам, сказаў на прэс-канферэнцыі ў Крамлі намеснік кіраўніка адміністрацыі Сяргей Прыходзька. Ён жа заявіў, што дакумент можа быць падпісаны ўжо ў гэтым годзе, а ІТАР-ТАСС, спасылаючыся на свае крыніцы, сцвярджае, што праект будзе апублікаваны 1 кастрычніка, а на яго абмеркаванне будзе адведзены месяц часу. Сяргей Прыходзька службова падкрэсліў, што падпісанне дагавора не звязана ні з прэзідэнцкімі, ні з парламенцкімі выбарамі.

Праект, які фактычна разбурае існуючую канстытуцыйна-прававую прастору, прапануе на першым этапе ўнясенне змяненняў у расійскую канстытуцыю, а затым таксама прыняцце адзінай канстытуцыі. Як і раней, прапануецца, што саюзам будзе кіраваць Вышэйшы дзяржаўны савет, які будуць складаць прэзідэнты, прэм'ер-міністры і кіраўнікі парламентаў абедзвюх краін. Абсурднасць такога органа, у якім на аднолькавых (?) правах будуць прадстаўлены афіцыйныя асобы зусім рознага ўзроўню легітымнасці, дапаўняюцца дзіўнай ідэяй, што ўзначальваць гэтае палітбюро (а, у выніку, і дзяржаву) будуць чаргова прэзідэнты 10-мільённай Беларусі і 140-мільённай Расіі. Прыгадаем, што ў эпоху папярэдніх аб'яднаўчых паракеізмаў, кіраўнікі рэспублік у складзе Расіі (перш за ўсё Татарстана) адназначна заявілі аб сваім магчымым выхадзе з Федэратыўнай дамоўленасці ў выпадку рэалізацыі гэтых юрыдычных экстравагантнасцей.

*Лента новостей — 27.09.1999 г.*
*http://www.polit.ru*

## Выглядае, што рыхтуемся да вайны

**Прэзідэнт падпісаў указ „Аб удакладненні паказчыкаў бюджэту на 1999 год". Закладзеная ў 1997 годзе традыцыя мяняць бюджэт аказалася больш жывучая, чым традыцыя адзначаць дажынкі. Магчыма таму, што збожжа ў нас становіцца ўсё менш, а грошай — усё больш.**

Даходная і расходная часткі бюджэту павялічваюцца на 25%. Прапануецца, што даходаў у гэтым годзе дзяржава атрымае на 99 трыльёнаў беларускіх рублёў больш, чым планавалася. Зрэшты, рэальныя даходы несупараўнальны з тэмпамі інфляцыі.

Ва ўдакладненым бюджэце перш за ўсё кідаецца ў вочы рэзка павышаны клопат дзяржавы ўласнай бяспекай. На трацiну ўзрастае фінансаванне органаў дзяржаўнай бяспекі. Расходы на абарону павялічваюцца больш за 35%, або на 7 трлн. руб., з якіх 6,7 трлн. пойдзе непасрэдна на вайсковыя патрэбы. (Спачатку арміі прапанавалася выдзеліць 19 трлн. рублёў). Але галоўным для сябе дзяржава ўсё-такі лічыць бяспеку ад унутраных ворагаў. Фінансаванне міліцыі, якое і без гэтага састаўляе 8,4 трлн. руб., павялічваецца амаль на 50% і да канца года саставіць 12,5 трлн. рублёў.

Затое выразна відаць, што з катэгорыі прыярытэтных у катэгорыю другарадных перайшлі сацыяльныя расходы. Раней дзяржава сваёй галоўнай задачай лічыла клопат аб дабрабыце грамадзян. Цяпер, мабыць, лічыць, што клапоціцца пра іх няма сэнсу. На мерапрыемствы ў галіне сацыяльнай палітыкі будзе выдзелена на 11 трлн. руб. менш, чым планавалася. У цэлым расходы на сацыяльную палітыку паменшаны на 5 трлн. У пераліку сацыяльных праграм павелічэнне фінансавання прадугледжана толькі па дапамогах і пенсіях сем'яў ваеннаслужачых. На гэтыя мэты дзяржава дадаткова выдзяляе 3 трлн. Затое на 11 трлн. паменшваюцца льготныя крэдыты на жыллёвае будаўніцтва.

Нічога унікальнага ў тым, што бюджэт у сярэдзіне года становіцца непрыдатным і трэба яго ўдакладняць, няма. Ну, не ўмее наша Міністэрства фінансаў правільна суадносіць даходы дзяржавы з яе расходамі. Іншыя ўмеюць, а нашы — не! Не ведаюць чыноўнікі, колькі грошай патрабуецца і ім, і нам. Увогуле не могуць яны палічыць, колькі рэальна будуць варты гэтыя самыя грошы. Ну, не ўмеюць і добра! Справа ў іншым. Справа ў тым, што ў дадзеным выпадку за сухімі лічбамі, якія многім аб нічым не гавораць, стаіць змена дзяржаўнай палітыкі. Раней у нас пры кожнай магчымасці грошы накіроўвалі на сацыяльную сферу, таму што і дзяржава называлася сацыяльна арыентаванай. Цяпер міліцыя, армія, органы Камітэта дзяржаўнай бяспекі ўраду больш блізкія, чым маламаёмныя і незабяспечаныя пласты грамадзян. Што ж гэта такое? Ці мы рыхтуемся да вайны?

**Андрэй Махоўскі**
*Белорусская деловая газета № 643, 24.09.1999 г.*

## Пара думаць аб выбарах

**22 верасня старшыня Вярхоўнага Савета 12-га склікання Мячэслаў Грыб заявіў журналістам аб стварэнні ў Беларусі новага грамадскага руху „За дэмакратычныя і свабодныя выбары".**

„Мы лічым, — заявіў Мячэслаў Грыб ад імя арганізацыйнага камітэта руху, — што асноўным сродкам рашэння канстытуцыйнага крызісу ў Беларусі з'яўляюцца дэмакратычныя і свабодныя выбары парламента і прэзідэнта. Праўдзенне такіх выбараў будзе залежаць не толькі ад зместу заканадаўчых актаў, якія рэгулююць іх правядзенне, але і ад устанаўлення дзейснай сістэмы грамадскага нагляду за ходам выбарчага працэсу".

У сувязі з гэтым, па словах былога спікера, 4 верасня ў Мінску 15 прадстаўнікоў, дэлегаваных больш чым пяцістамі выбаршчыкамі з 27 раёнаў і гарадоў Беларусі, рашылі стварыць аргкамітэт па падрыхтоўцы ўстаноўчага з'езда грамадскага руху з зусім аптымістычнай назвай „За дэмакратычныя і свабодныя выбары". Старшынёю аргкамітэта новага грамадскага ругу аднадушна быў выбраны Мячэслаў Грыб. Апрача яго ў склад аргкамітэта ўвайшлі Уладзімір Гудзеў — галоўны рэдактар бюлетэня „Выбаршчык", Міхаіл Пліско — намеснік галоўнага рэдактара гэтага выдання.

„Не ставім перад сабою задачы прыходу да ўлады, не прэтэндуем на вядучую ролю ў палітычным працэсе і не збіраемся падмяняць палітычныя партыі ў змаганні за ўладу", — запэўніваў журналістаў Мячэслаў Грыб. Асноўная задача руху — забяспечыць магчымасць правядзення адкрытых і сумленных выбараў і рэферэндумаў у Беларусі, дапамагчы арганізаваць іх і праводзіць без парушання выбарчага заканадаўства праз пасрэдніцтва праваой падрыхтоўкі выбаршчыкаў.

Правядзенне ўстаноўчага з'езда руху намечана на пачатак снежня г.г., дзе, як прапануецца, будуць выпрацаваны ўстаўныя дакументы арганізацыі, пасля чаго яна ў законным парадку можа быць зарэгістравана.

Але ўжо сёння лідэр руху Мячэслаў Грыб заклікае ўступіць у арганізацыю як членаў партый і грамадскіх аб'яднанняў, так і радавых выбаршчыкаў — чыноўнікаў, прадпрымальнікаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў, прадстаўнікоў інтэлігенцыі, студэнтаў, пенсіянераў і іншых хатніх гаспадынь.

**Анатоль Нязванаў**
*Белорусская деловая газета № 643, 24.09.1999 г.*

## „Навінаў" больш няма

Не прайшло і два гады з часу закрыцця беларускімі ўладамі газеты „Свабода" і выхаду ў свет яе пераймальніцы „Навінаў", як і гэта выданне змушана спыніць сваё існаванне. На гэты раз газета была „задушана" фінансава. 24 верасня суд Маскоўскага раёна Мінска задаволіў іск дзяржсакратара Савета бяспекі Віктара Шэймана аб абароне гонару і годнасці. Гэта будзе каштаваць рэдакцыі „Навінаў" 10 мільярдаў рублёў. Такіх грошаў у журналістаў няма і прысуд азначае спыненне выхаду газеты.

Усё пачалося з таго, што 14 верасня „Навіны" надрукавалі артыкул журналіста Сяргея Анiскі „Кто в теремочках живёт?", у якім сцвярджалася, што ў вёсцы Падліпкі Пухавіцкага раёна Віктар Шэйман пабудаваў двухпавярховы дом. Праз два дні Лукашэнка загадаў Шэйману рэдакцыю падаць у суд, а газету закрыць. Для вырашэння справы хапіла васьмі дзён. Суддзя Савіч не палічыў вартымі доказы прадстаўнікоў рэдакцыі „Навінаў", якія спрабавалі ратаваць газету і поўнасцю задаволіў патрабаванні дзяржсакратара.

Калектыў „Навінаў" з самага пачатку існавання газеты разлічваў на тое, што яе можа напаткаць лёс „Свабоды". Таму было зарэгістравана новае выданне „Наша Свабода", якое стане спадкаемцам „Навінаў".

**Зміцер Кісель**

# Нам паратунак у вяртанні да каранёў



*Сяброўская сустрэча (злева Яўген Вапа, Андрэй Сцепанюк, Аляксандр Лаўрыновіч і — на другім плане — Аляксей Карпюк).*

[1 ☞ працяг]
лас", які існаваў у белліцэі ў пачатку 80-х гадоў.

— Дзякуючы маім настаўнікам магу ганарыцца, што я беларуска і падказваю вам, што добра быць беларусам, — заявіла Маргарыта Пракапюк, якая 6 гадоў таму закончыла вучобу ў ліцэі.

За творчыя поспехі на беларускай ніве вучню IV класа Юрку Буйнюку Беларускі саюз у Польшчы ўстанавіў гадавую стыпендыю размерам 200 злотых у месяц, аб чым паінфармаваў ягоны старшыня Яўген Вапа, звяртаючыся з заклікам аб дапамозе для беларускага маладога пакалення.

Аднак найбольш пра беларускую мову і свае карані гаварыў пісьменнік Віктар Швед (выступленне друкуем побач).

**Высокі ўзровень навучання**

Аб высокім узроўні навучання гаварылі, перад усім, яго выпускнікі. Прафесар хіміі Міхал Сычэўскі, які зараз працуе ў Політэхнічным інстытуце ў Варшаве, адзначыў добрую падрыхтоўку белліцэістаў да экзаменаў у вышэйшыя ўстановы. „Працавітасць, упартасць і адданасць вучобе — гэта прыкмета нашых маладых людзей, якіх сустракаў я ў Варшаве", — сказаў ён. Пра поспехі белліцэістаў, якія паступаюць у Вышэйшую музычную школу ў Ольштыне гаварыў Ян Палавянюк.

Дырэктар Зінаіда Навіцкая паведаміла, што з ліку 3 460 выпускнікоў белліцэя 926 удзельнічала ў акруговых элімінацыях па прадметных алімпіядах, 187 алімпійцаў прымала ўдзел у цэнтральных элімінацыях, 142 сталі фіналістамі, а 41 — лаўрэатамі. Паведаміла таксама, што ў сярэднім звыш 40% абітурыентаў заканчвае вучобу з сярэдняй ацэнкай 4 і больш, а каля 80% выпускнікоў паступае ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. У агульнапольскім рэйтынгу ліцэяў, праведзеным выдавецтвам „Перспектывы" Бельскі белліцэй апынуўся ў мінулым годзе на 7 месцы.

Пасля прамоў гасцей і выпускнікоў з мастацкай часткай выступілі цяперашнія белліцэісты. Спачатку вучні IV класаў дэкламавалі беларускія вершы, а пасля ліцэісткі з „Дзявочых нотак" спявалі песні, сярод якіх адна, „Мае вершы", напісана на словы Віктара Шведа. Многія ўдзельнікі пайшлі на могільнік, дзе на магілах настаўнікаў усклалі вянкі. Пасля абеду абітурыенты сустрэліся на выстаўках. Першая экспазіцыя датычыла беларускага школьніцтва ў Бельску-Падляшскім, а аўтарам сцэнарыя якой быў Дарафей Фіёнік. На другой выстаўцы можна было паглядзець карціны мастака Славаміра Рыбака з Нурца, а на трэцяй — выданні літаб'яднання „Белавежа". Вечарам усе выпускнікі сустрэліся на танцах у новай спартыўнай зале „тройкі", а ў нядзелю, 26 верасня, у гарадскім парку адбыўся беларускі фэст, арганізаваны БГКТ і Управай горада.

— Сустрэліся мы са сваімі школьнымі сябрамі, настаўнікамі, выхавацелямі, былі ўспаміны, ад якіх засталіся незабыўныя ўражанні і новыя знаёмствы, — сказаў пасля З'езда Уладзімір Сідорскі, які працуе настаўнікам фізкультуры ў Комплексе прафесійных школ у Гайнаўцы.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

# Галоўная справа — мова

[1 ☞ працяг]
дырэктара Васіля Бахара, які неўзабаве памёр у савецкай ссылцы. Перайшоў я тады ў Бельскую беларускую сярэднюю школу, якая ў чэрвені 1946 года таксама спыніла сваю працу. У той час асветныя ўлады ліквідавалі на Беласточчыне ўсе школы з беларускай мовай навучання і беларускай мовай як прадметам.

На шчасце ў 1949 годзе выйшаў загад паўторнай арганізацыі беларускага школьніцтва на Беласточчыне. Паступова знікалі аднак школы з беларускай мовай навучання, астаўся ў іх толькі прадмет беларускай мовы. Усе нашы намаганні, каб гэты прадмет быў абавязковым у школах, аказаліся безрэзультатнымі. Дубровшчына і Сакольшчына ўжо даўно пазбыліся са сваіх школ і гэтага дабравольнага прадмета.

Наш ліцэй з беларускай мовай як прадметам у Бельску-Падляшскім пад кіраўніцтвам пяці чарговых вопытных дырэктараў, з якіх двух — Яраслава Кастыцэвіча і Міколы Гайдука — няма ўжо ў жывых, дзякуючы высокакваліфікаваным педагогам дабіўся выдатнага ўзроўню навучання. Адзначае ён юбілейны 55 год сваёй працы. Ліцэй падрыхтаваў да атэстату сталасці вялікую армію маладых людзей — тры з палавінай тысячы выпускнікоў, з якіх большая частка, пасля добрай падрыхтоўкі паступіла і закончыла вышэйшыя навучальныя ўстановы. Дзякуючы ўладам Рэспублікі Беларусь выпускнікі нашага ліцэя прымаюцца ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі і многія ўжо вярнуліся з дыпломамі да прафесійнай працы ў нашай краіне.

Частка нас, выпускнікоў школы, прыбыла на свой чарговы, таксама юбілейны, V З'езд. Усе мы носім у сваіх сэрцах многа ўдзячнасці нашай школе за тое, што вывела яна нас, найчасцей са збяднелых беларускіх вёсак, на шырокую дарогу далейшага жыцця і адукацыі.

Я асабіста надзвычай моцна эмацыянальна звязаны з Бельскім беларускім ліцэем, якога педагогам, вучням і выпускнікам прысвяціў многа сваіх вершаў. Цешыла мяне заўсёды, калі я, пераступаючы парог школы, на сцяне над уваходам у сакратарыят чытаў радкі са свайго, напісанага сэрцам, верша:

*З усіх найдаражэйшая ты школ,*
*Табе падзякі ёсць у сэрцы многа.*
*Дзяцей ты сотні з нашых родных сёл*
*Выводзіш на шырокую дарогу.*

Хочацца мне пажадаць усім выпускнікам нашай школы ўсяго найлепшага ў жыцці а таксама, каб яны ніколі не забывалі сваёй роднай школы, свайго народа, сваёй мовы і сваёй малой айчыны — Беласточчыны.

*Не забывайма, дарагія, хто мы,*
*Што ўсіх яднае роды наш куток!*

Дазвольце, што на заканчэнне прачытаю верш прысвечаны сітуацыі беларусаў па адным і другім баку дзяржаўнай мяжы.

## Наш лёс

*Удзельнікам V З'езда выпускнікоў і выхаванцаў Бельскага беларускага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча*

Ад роднага ўцякаем мы няспынна,
І з кожным днём нас меней тут
і меней.
Мы мовы адракаемся, Айчыны,
Знікаюць беларусаў пакаленні.

Мы рускімі ў Рэспубліцы быць
хочам,
А тут усе мы ціснемся ў палякі.
І быццам хтосьці ўсіх нас тут сурочыў,
Бо лёс усіх нас там і тут аднакі.

Нам быццам непатрэбная свабода,
Нішчым яе, калі ўжо атрымалі.
Пад іншымі мы марым быць
заўсёды,
Каб іншыя ўсцяж намі кіравалі.

І роднага народу без прымусу
Мы відавочна адрачэмся скора,
І знікнуць неўзабаве беларусы,
У руска-польскім расплывемся моры.

Магчыма, што калісьці нашы ўнукі,
Жывучы ў еўрапейскім свеце новым,
Скажуць успомніўшы час нашае
навукі:
— Яны тут вывучалі сваю мову.

**Віктар Швед**

PS. Пасля майго даволі песімістычнага верша хачу сказаць: Дай Божа, каб яшчэ і нашы ўнукі вывучалі ў Бельскім ліцэі дабравольны прадмет беларускай мовы! **В. Ш.**

# Фэст у Бельску-Падляшскім

26 верасня ў гарадскім амфітэатры ў Бельску-Падляшскім адбыўся беларускі народны фэст арганізаваны ГП БГКТ з выпадку патройнага юбілею: V З'езду выпускнікоў Бельскага беларускага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча, 55 гадоў ад моманту ўтварэння школы і 50 гадоў ад моманту аднаўлення школы пасля трохгадовага перапынку.

Фэст адкрыў пасол Сейма і заадно старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі. Паводле прамоўцы, Беларускі ліцэй у Бельску-Падляшскім — гэта самая яркая зорка на небасхіле Беласточчыны. Трэба нізка пакланіцца ўсім дарагім настаўнікам за гэта, што не толькі перадаюць вучням веды, але таксама пераконваюць іх, што трэба шанаваць усё роднае, у першую чаргу сваю мову, ганарыцца званнем беларуса.

Ян Сычэўскі прывітаў шматлікую публіку і гасцей: генеральнага консула Рэспублікі Беларусь у Беластоку Мікалая Крэчку з жонкаю, дырэктара Дэпартамента ўстаноў культуры Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Тадэвуша Стружэцкага з жонкаю, пасла Сейма Сяргея Плеву, дырэктара страхавога таварыства „Поліса" ў Беластоку Станіслава Лапіча, былога дырэктара Бельскага беларускага ліцэя Аляксея Карпюка.

Ян Сычэўскі выклікаў на сцэну старшыню Арганізацыйнага камітэта V З'езда выпускнікоў ліцэя Анну Тапалеўскую і дырэктара ліцэя Зінаіду Навіцкую. Анна Тапалеўская прывітала прысутных ад імя ўдзельнікаў V З'езда выпускнікоў Бельскага беларускага ліцэя. Зінаіда Навіцкая падзякавала Арганізацыйнаму камітэту З'езда за ахвярную працу ў падрыхтоўцы і правядзенні мерапрыемства, а таксама ўсім выпускнікам, якія не забываюць сваёй роднай школы.

Валянціна Ласкевіч павяла канцэрт, які пачаўся выступленнем ліцэйскага мастацкага калектыву „Дзявочыяноткі" пад кіраўніцтвам дырэктара Бельскага дома культуры Сяргея Лукашука. Вучаніцы выступілі з цікавым слоўна-музычным мантажам, у якім апынуўся між іншымі верш Віктара Шведа „Ужо нас армія людзей", прысвечаны выпускнікам ліцэя. Затым на сцэне паявілася папулярная на Беласточчыне Ала Дубец з калектывам „Каласкі", а за імі — эстрадны гурт „Лідэр" з Беластока.

Выступілі таксама госці — Святлана Суседчык і Якаў Навуменка, заслужаныя артысты Рэспублікі Беларусь, якія працуюць у Мінскай тэлерадыёкампаніі. Слухачам спадабаліся асабліва „Яна-Янычка" і „Бела-беларусачка". Прывезеныя Я. Навуменкам касеты з беларускімі песнямі ў яго выкананні прадаліся вокамгненна. На сцэну выйшлі яшчэ хор „Васілёчкі" ды „Прымакі", якія ўсю ночігралі і спявалі на вечарыне для выпускнікоў белліцэя.

На заканчэнне з вялікім поспехам выступіў Ансамбль беларускай народнай песні „Спадчына" з Дзяржынска ў Рэспубліцы Беларусь. Гэты папулярны ўжо калектыў з'яўляецца ўдзельнікам усебеларускіх фестываляў „Звіняць цымбалы і гармонік" у Паставах і фестывалю беларускай песні ў Пінску. Выступаў ён таксама і на Украіне. 25 верасня ансамбль з поспехам выступіў у нашым Гарадку.

На фэсце кніжны кірмаш наладзіў дырэктар славянскай кнігарні ў Варшаве Янка Заброцкі, таксама выпускнік Бельскага беларускага ліцэя. Прадаваліся тут касеты з песнямі беларускіх калектываў Беласточчыны, а свае паэтычныя кніжкі падпісваў Віктар Швед.

**В. Ш.**

# Пачынаецца час вяртання

**Толькі што выйшла з друку кніга „Вяртанне да сваіх", у якой сабраны паэтычныя і празаічныя творы трох заходнебеларускіх палітычных, грамадскіх і культурных дзеячаў, а заадно і літаратараў, ураджэнцаў Беласточчыны — Станіслава Грынкевіча, Франука Грышкевіча і Уладыслава Казлоўшчыка. З укладальнікам кнігі Сяргеем ЧЫГРЫНОМ гутарыць Віталь Луба.**



***— Вы вядомы ў нас як аўтар артыкулаў па гісторыі заходнебеларускай літаратуры, якія друкаваліся на старонках „Нівы". Што схіліла Вас заняцца якраз гэтым перыядам?***

— Заходнебеларускай літаратурай я пачаў цікавіцца на пачатку 80-х гадоў. Гэтую цікавасць мне прывілі наш слонімскі паэт Анатоль Іверс і пакойны Уладзімір Калеснік — тады адзіны ў Беларусі спецыяліст па заходнебеларускай літаратуры, а таксама Адам Мальдзіс, Арсень Ліс, Янка Саламевіч, Алег Лойка, Вячаслаў Рагойша. На сённяшні дзень у нас амаль няма сур'ёзных даследчыкаў літаратуры Заходняй Беларусі. У Арсеня Ліса апошнім часам з'яўляецца зусім мала артыкулаў. Раней ён больш пісаў. Таму мне, тым больш заходніку, гэта цікава і гэтым захапіўся. Лічу, што літаратура Заходняй Беларусі ў нас зусім не даследавана яшчэ, а тое, што зроблена, зроблена аднабакова. Яна даволі багатая, у ёй вельмі шмат пісьменнікаў, творчасць якіх амаль невядомая не толькі замежнаму чытачу, але і беларускаму наогул.

***— А як узнікла задума заняцца ўраджэнцамі Беласточчыны — Грынкевічам, Грышкевічам, Казлоўшчыкам?***

— У маім хатнім архіве шмат заходнебеларускіх выданняў, напрыклад, „Калоссе", „Літаратурная старонка", калектыўныя і асобныя паэтычныя зборнікі. Гартаючы гэтыя выданні, сустракаючыся з прозвішчамі, я думаў: чаму гэта столькі было многа паэтаў, празаікаў, публіцыстаў у Заходняй Беларусі, а мы іх не вывучалі ні ў школе, ні ва універсітэце. І калі я капнуў глыбей, узрушыў глыбу заходнебеларускай літаратуры, тады даведаўся, што гэта былі нацыянальныя дзеячы, палітыкі, вучоныя, якія шмат пісалі і думалі па-беларуску. Адны былі праваслаўныя, другія каталікі. Але ўсе яны былі шчырыя беларусы і моцна любілі сваю Бацькаўшчыну. Пошукі пачаліся ў першую чаргу з апытвання былых заходнікаў, сведкаў таго часу. Яны расказвалі пра паэтаў, называлі часопісы, у якіх друкаваліся. Пачаў я шукаць тыя выданні, складаць бібліяграфію. З'явіліся новыя адкрыцці, новыя прозвішчы паэтаў, празаікаў, публіцыстаў, гісторыкаў. Так патрапілася, што Франук Грышкевіч, Станіслаў Грынкевіч і Уладыслаў Казлоўшчык аказаліся ўраджэнцамі Беласточчыны, а дакладней кажучы, Сакольшчыны. Трое землякоў ды такіх таленавітых! Я нават прагледзеў „Ніву" за апошніх дваццаць гадоў, але гэтых прозвішчаў не знаходзіў. Вельмі цікава пісалі пра заходнебеларускі перыяд Аляксандр Бергман, Пятро Ластаўка, Уладзімір Калеснік, але гэтыя прозвішчы чамусьці не ўспаміналіся. І толькі калі былі знойдзены матэрыялы, прысвечаныя беларускім пісьменнікам г.зв. калабарацыяністам, значыць тым, якія жылі і працавалі ў час акупацыі на тэрыторыі Беларусі, убачыў там прозвішча Уладыслава Казлоўшчыка. Ён лічыўся ворагам беларускага народа, але які ж ён вораг: што жыў на тэрыторыі акупіраванай нямцамі Беларусі, што выдаваў беларускую „Менскую газэту", што выступаў з артыкуламі. Але ж яго артыкулы вельмі цікавыя, і ён там нічога супраць беларускага народа не пісаў. Ён выступаў толькі супраць бальшавізму, і за тое яго палічылі ворагам. Акрамя гэтага я маю дома добры архіў беларускай эміграцыі. Дзякуючы гэтым выданням даведаўся пра замоўчваных пісьменнікаў і паэтаў. Там, на эміграцыі, і ў ЗША, і ў Канадзе, і ў Нямеччынне шмат пра іх пісалі, асабліва ў каталіцкіх беларускіх выданнях. Там ацэньваліся яны станоўча, успаміналіся добрым словам. Вядома, адкрыць новыя прозвішчы вельмі цяжка, але заадно вельмі цікава і неабходна. Проста хочацца, каб яны не згубіліся ў гісторыі беларускай літаратуры.

***— У прадмове да кніжкі пішаце, што наступіў час вяртання замоўчваных пісьменнікаў у літаратуру. А якое іх месца ў агульнабеларускай літаратуры?***

— Я лічу, што творчасць Грынкевіча, Грышкевіча і Казлоўшчыка — гэта не асабліва высокая літаратура. Але іх прозвішчы выкінуць з літаратуры нельга. Гэта наша гісторыя, гісторыя літаратуры Беларусі. Заходнікі варыліся ў сваім саку, былі адрэзаны ад усходняй Беларусі. Да іх бліжэй была польская, заходняя культура. Шмат у іх паэзіі паланізмаў, дыялектнай тэрміналогіі, але ёсць творы вельмі цікавыя. Напрыклад, верш-гімн „Песьня беларускай моладзі" Уладыслава Казлоўшчыка тадышняя моладзь ведала на памяць. Нават цяпер, калі размаўляю са старэйшымі людзьмі, яны паўтараюць: „Вы ўсё яшчэ зробіце, вы «бойкая моладзь — арлы маладыя». Не памятаю, хто гэта напісаў, але гэта быў наш гімн, мы яго некалі спявалі". Чалавек, які напісаў гімн, нешта значыць. А Станіслаў Грынкевіч быў доктарам, даследаваў медыцыну на беларускай мове. Сёння ў Беларусі няма медыцынскіх выданняў па-беларуску, а тады былі. Можна выдаць велізарнейшую кнігу медыцынскіх прац Станіслава Грынкевіча, якія друкаваліся ў заходнебеларускіх выданнях. Уладыслаў Казлоўшчык выдаў па-беларуску шмат кніг прысвечаных спорту. Усе яго працы 1920-30-х гадоў па спорце просяцца пад адну вокладку. А паэзія сама па сабе. Напрыклад, Франук Грышкевіч — святлейшы лірык, падобны ў нечым на Хведара Ільяшэвіча і ранняга Максіма Танка. Час яшчэ да іх вернецца. Таму і кнігу я гэтак назваў: „Вяртанне да сваіх". Іх творчасць раскінута па ўсіх заходнебеларускіх і эміграцыйных выданнях, шмат іх твораў знаходзіцца ў архівах і бібліятэках Польшчы, Чэхіі, Літвы, Латвіі, Беларусі. Усё гэта трэба адшукваць і выдаваць.

***— Ці Вы самі думаеце працягваць справу вяртання беларускай літаратуры іншых забытых творцаў?***

— Яшчэ раз нагадаю: пачынаецца пара вяртання. Я хачу, напрыклад, дачакацца асобных кніжак твораў Франука Грышкевіча, Станіслава Грынкевіча, Міколы і Хведара Ільяшэвічаў, Уладыслава Казлоўшчыка, Яўгена Бартуля, Сяргея Хмары, Мікалая Шкялёнка, Адама Станкевіча і шмат іншых. Напрыклад, Сяргей Хмара — цудоўны паэт і публіцыст, таксама заходнік, які ў 1939 г. выдаў кніжачку „Жураўліным шляхам". У „Ніве" я пісаў пра Тодара Лебяду — драматурга, вялікага яркага паэта, нацыянальна свядомага аўтара. У мяне задумак вельмі шмат.

***— А як дайшло да таго, што выдаваць кніжку прыехалі Вы ў Беласток?***

— Гадоў чатыры назад я зрабіў машынапісы трох асобных кніжак з творамі Грышкевіча, Грынкевіча і Казлоўшчыка ды дамовіўся са старшынёю Літаб'яднання „Белавежа" Янам Чыквіном наконт іх выдання. Пераслаў яму машынапісы. Пасля атрымаў ліст, што выдаць усе тры кніжкі ён не зможа, але можа выдаць трох аўтараў пад адной вокладкай са сваімі рэдакцыйнымі заўвагамі і зменамі. Я пагадзіўся, але „Белавежа", на жаль, кнігі не выдала. Бываючы на Беласточчыне, чытаючы ўсе выданні, якія тут выходзяць, заўважыў, што ў адным з навуковых выданняў ёсць спасылкі на мой машынапіс, які захоўваўся ў Яна Чыквіна. Гэта мяне з аднаго боку пакрыўдзіла, але з другога ўзрадавала, таму што адчуў, што кніжка неабходная. У Беларусі яе выдаць сёння немагчыма, бо на гэта спатрэбіліся б вельмі вялікія грошы. І толькі дзякуючы Беларускаму саюзу ў РП кніга гэта на працягу года пабачыла свет.

***— Дзякую за размову.***

# Знішчэнне мовы

*(працяг; пачатак у 31 н-ры)*

**10. Знішчэнне выданняў і скарачэнне накладаў**

Адным з галоўных накірункаў здзяйснення лінгвацыду была і застаецца барацьба з друкаваным словам.

У 1839 г. мітрапаліт Язэп Сямашка касуе Берасцейскую унію. У выніку распачынаецца масавае спальванне рукапісаў і кніг былых уніяцкіх цэркваў і кляштараў, значная колькасць якіх была на беларускай мове. Гэтая варварская акцыя доўжылася з 1841 па 1859 гг. Па сведчанні Р. Зямкевіча, „Сямашка паліў на двары свайго палацу (у Жыровічах — В. Г.) уніяцкія беларускія абразы, гравюры і кніжкі, якія цяпер (Р. Зямкевіч пісаў гэта ў 1919 г. — В. Г.) бібліёграфы не могуць знайсці (лік знішчаных старабеларускіх кніжак, цяпер нікому невядомых, апрача загалоўка, перавышае пяць тысяч экземпляраў)". А. Мальдзіс, з кнігі якога пазычаная гэтая цытата, лічыць лічбу пяць тысяч падвышанаю, але заўважае, што „няма дыму без агню".

Л. Лыч сведчыць, што „нядобрую ролю знішчэння уніяцкіх кніг узяла на сябе Полацкая духоўная кансісторыя". У яе з канца 30-х гадоў XIX ст. звозіліся гэтыя кніжкі з усяе Беларускай епархіі. З прывезеных сюды кніжак ад агню маглі ацалець толькі тыя, якія выклікалі да сябе цікавасць з боку тых архірэяў, якія бралі ўдзел у іх спальванні.

У XX стагоддзі няўхільна памяншаліся наклады беларускамоўных выданняў ад 68,5% з ліку ўсіх выданняў у Беларускай ССР (у 1925 г.) да 7% у 1987 г.

У 1995 г. выданняў на беларускай мове ў Рэспубліцы Беларусь было 12,5%, а ў 1997 г. ужо 5,5%, гэта значыць менш, чым у апошнія гады Савецкага Саюза. Гадавы наклад беларускіх газет у 1986 г. склаў 31,5%, у 1995 г. 5,7%, у 1997 г. 5,6%.

Апошнія даныя ўзятыя з афіцыйнага даведніка „Республика Беларусь в цифрах" (Мінск 1998, с. 28-29), выдадзенага толькі на адзіных „вялікіх" мовах свету — рускай і англійскай.

Не трэба ўсцяшацца таму, што пры савецкай уладзе былі вялікія наклады беларускамоўных выданняў. Тое, што друкавася беларускай моваю, уяўляла сабою, галоўным чынам, пераклады класікаў марксізму-ленінізму, верных ленінцаў, агітацыйна-прапагандысцкую і сацрэалістычную мастацкую літаратуру.

Гэтая друкаваная прадукцыя кідала цень на мову, якою яна друкавалася. Расійскі эмігранцкі філосаф Георгій Фядотаў пісаў: „Дзесяткамі моваў Саюза павінны былі друкавацца і чытацца толькі зборы твораў Маркса і Леніна. Гэта было дасягнута з одамі Сталіну ў дадатак. Для гэтага трэба было задушыць нацыянальныя літаратуры (асабліва ўкраінскую і цюркскую), знішчыўшы значную частку іхняй інтэлігенцыі.

Ці палепшылася нешта ў гэтым полі пасля абвяшчэння Беларуссю незалежнасці? У першыя пару год — так. Пачынаючы з 1994 года, усё ўвайшло ў вядомую наезджаную каляіну.

*(працяг будзе)*

**Валянцін Грыцкевіч**

# Навучыўся ў папярэдніка

12 верасня тэлебачанне паказала святкаванні ў гонар 10-гадовага юбілею ўступлення на пост першага некамуністычнага прэм'ер-міністра Тадэуша Мазавецкага. Мерапрыемства ўдастоілі прэзідэнт Аляксандр Квасьнеўскі, прэм'ер-міністр Ежы Бузэк. Былі таксама генерал Войцех Ярузельскі, мітрапаліт Сава і іншыя афіцыйныя госці. Аднак я не заўважыў галоўнага архітэктара гэтай перастройкі — экс-прэзідэнта Леха Валэнсы. Чаму ён не ўдзельнічаў у дарагім яму сэрцы юбілеі? Відаць прызнаў, што яму там не месца, паколькі ў святкаваннях прысутнічалі Квасьнеўскі з Ярузельскім. Трэба было б яму з імі прывітацца, падаць руку, а гэта ж былому прэзідэнту не кампанія.

Аднак і прэзідэнт Квасьнеўскі на міжнароджную канферэнцыю ў Ялту паехаў пад умовай, што не будзе на ёй Аляксандра Лукашэнкі, якога не лічыць ён легітымным прэзідэнтам Беларусі. Здаецца мне, што навучыўся ён гэтага ў свайго папярэдніка.

**Дзядзька Захар**

# Блакінная рэспубліка

**Ва ўспамінах сям'і Васіль Захарка запамятаўся як высакародны, вучоны чалавек.**

**— Дзядзька неганаровы быў, з кожным прыстане і пагаворыць, распытае пра ўсё. А дзеці як яго любілі! Бывала, дзядзька на вуліцу выйдзе, а яны акружаць яго і ходзяць за ім, як за бацькам. Бо дзядзька заўсёды з той Прагі многа канфетаў прывозіў, — прыгадвае Вера Міхальчык, пляменніца прэзідэнта.**


*Вера Іванаўна Міхальчык — пляменніца прэзідэнта.*

**6. На радзіме прэзідэнта**

Позняй раніцай пакідаем Цецяроўку. Зразу рашаем наведаць Дабрасельцы, што ў Зэльвенскім раёне, родную вёску эміграцыйнага прэзідэнта Васіля Захаркі.

Наш маршрут вядзе цераз Ваўкавыск. Горад уражвае сялянскімі карцінамі. У пэўны момант мне здалося, што едзем праз нашы Рыбалы. Да ўзнікнення гэтай асацыяцыі спрычыніўся перш за ўсё выгляд драўлянай забудовы горада і свойскасць быцця-жыцця. Усёй шырынёй вуліцы на дарозе з Ваўкавыска ў Ружаны босая бабуля гнала статак коз. Нейкі дзядзька на ровары без імпэту круціў у патрэбным напрамку. Ззаду цягнулася фурманка з падпітымі дзядзькамі.

Далей заінтрыгаваў нас пасёлак Ізабэлін.

— „Што тут такое?" — думалася пра непрыкметную вёску, шэсць разоў абазначаную на вялізных указальніках. У беларускіх умовах гэтая шматразовасць паказалася падазронай. Пазней прычыну найбольш абазначанай мясціны ў Беларусі рассакрэціў нам Віктар Шалкевіч. У Ізабэліне пражываюць нашчадкі немцаў.

У Дабрасельцы ехалі мы напрасткі, цераз вёску Канюхі. Тут не было ўжо ніводнага ўказальніка. Пра далейшую дарогу пыталі мы кожнага сустрэтага жыхара. Дарога напрасткі паказалася кашмарнай памылкай. Пэўны адрэзак мы ішлі пяшком, некалькі разоў выпіхвалі машыну з гразі. А калі пыталі сустрэтых вяскоўцаў пра Дабрасельцы, тыя паказвалі рукой нейкі напрамак, дзе ўвогуле не было дарогі. І падумаць: наша дарога была пазначана на карце. Праўда, спачатку была яна нават асфальтаваная. Аднак, чым далей ад'язджалі мы ад галоўнай дарогі, тым больш прыходзілася ісці пяшком. І так, пасля двух гадзін „праставання" шляху мы апынуліся перад указальнікам з надпісам Дабрасельцы. Перад вёскай красаваўся калгас імя Фелікса Дзяржынскага. Побач вёскі, на ўзгорку, знаходзяцца могільнік і драўляная капліўка, размаляваная на арэхавы колер. На могілках што крок бачым магілы Захаркаў.

— Дзе тут Захаркі жывуць, — пытаем у сустрэтых хлапчукоў на вуліцы.

— У нас многа Захаркаў. А вам якіх трэба?

Пытаем пра сям'ю прэзідэнта. Хлопцы адсылаюць нас да найбліжэйшых Захаркаў. Ля драўлянай хаты сустракаем прывeтлівую цётку.

— А вы можа з Прагі будзеце? — цікавіцца жанчына. Сама гаспадыня нічога не ведала пра славутага сваяка. На дапамогу прызвала свайго мужа, таксама Васіля Захарку.

— У газеце пра гэтага дзядзьку Васіля чыталі. Ён добрым беларусам быў, — кажа гаспадар.

На панадворку сустрэлі мы яшчэ трох мужчын. Усе сваякі прэзідэнта працуюць у калгасе імя Фелікса Дзяржынскага.

— Гэты хлопец, — паказваюць наймалодшага з кампаніі, — вымушаны кароў даіць, хаця школу мае, тэхнік-лясннік па адказнасці.

— Ой, шкада, што вы раней не прыехалі. Два дні таму памёр такі чалавек, што ўсё ведаў.

На шчасце прыгадалі яны яшчэ адну сваячку Васіля Захаркі. Паказалася, што мы — першыя журналісты, якія завіталі ў Дабрасельцы. Да гэтай пары ні адзін гісторык, ні журналіст не цікавіліся сваякамі прэзідэнта, яго роднай вёскай. А тут на кожным кроку сваякі. Калі я зрабіла здымак выпадковай бабулі і яе ўнучцы Натальцы, даведалася, што наткнулася таксама на сваячку Васіля Захаркі. Бабуля была нават падобная на прэзідэнта. Старэча, на жаль, усё ўжо пазабывала, што калісь ведала.

Пасля едзем у канец вёскі, дзе жыве пляменніца прэзідэнта. Цётка Вера як бы прадчувала сустрэчу. Жанчыну сустрэлі мы ля плота сваёй сядзібы.

— А родненькія, адкуль жа вы нашага дзядзьку ведаеце. А можа вы з Чэхаславакіі будзеце? — прывітала нас устрывожаная пляменніца прэзідэнта.

Маці нашай субяседніцы была роднай сястрой бацькі Васіля Захаркі. У памяці Веры Міхальчык дзядзька Васіль запамятаўся як высакародны, вучоны чалавек.

— Ён з кожным умеў пагаварыць, распытаць пра ўсё на свеце. А, бывала, як на вуліцу выйдзе, дзеці яго акружаюць і ідуць за ім як за бацькам. Бо дзядзька заўсёды многа канфетаў з тае Прагі прывозіў.

Доўгі час сям'я ў Дабрасельцах не ведала пра лёс Васіля Захаркі.

— Ужо пры Брэжневе, як Геніюшы вярнуліся, мы даведаліся як, што і да чаго, — успамінае Вера Міхальчык.

— Мая цётка зайшла да лекара, а ён, Геніюш, быў жаночы ўрач і пытае як фамілія. — „Захарка з Дабрасельцаў", — цётка кажа. Так яны і дагаварыліся. І сталі мы дружыць з Геніюшамі. А калі Геніюш памёр, то паліцыя колы ў машыне перастрэліла, — цётка Вера сціхае голас. — Яшчэ пасля вайны адзін (не з нашай вёскі) прынёс газету і кажа маёй маме: „Глядзі, Зіна, твой дзядзька прадацелем быў". А мы нічога не ведалі, цярпелі. І бачыце, як выйшла, што праўда зусім другая была, — цётка Вера ўціраe слёзы.


*Сяргей Бязносік — пенсіянер-настаўнік беларускай мовы на месцы зарослага пустазеллем дома Васіля Захаркі.*

Пляменніца прэзідэнта заўсёды моліцца за ўпакой свайго дзядзькі.

— І ў мінулую нядзелю бацюшку запіску за ўпакой дала. Там і сваю маму запісала, і гэтага дзядзьку і яго жонку Паўліну.

На развітанне робім памятныя здымкі. Цётка Вера заахвочвае нас пачаставацца яе слівкамі.

— Можаце ўсе сабе абарваць. Абы толькі хацелі, — кажа добрая пенсіянерка.

Едзем яшчэ на месца, дзе стаяла хата Васіля Захаркі. Там сустракаем настаўніка беларускай мовы Сяргея Бязносіка. Пасля кароткай размовы паказалася, што наш субяседнік — выпускнік Брэсцкага педінстытута, зараз пенсіянер. Яго жонка — таксама сваячка Васіля Захаркі. Сяргей Бязносік паказвае нам зарослы пустазеллем пляц. На месцы, дзе нарадзіўся прэзідэнт Беларусі, тырчыць адно каменны фундамент. На фоне сумнай карціны, якая так красамоўна сведчыць пра лёс Беларусі, фатаграфую настаўніка роднай мовы. Гэты вобраз астанецца ў маёй памяці.

***(працяг будзе)***

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*


*Сваякі Васіля Захаркі з Ленай Глагоўскай і Аннай Куклік.*

# Чыгуначны жарт

Дзяржаўная чыгунка любіць рабіць сюрпрызы сваім кліентам. Вось хоць бы гэты. Нядзеля 26 верасня. На цягнік, які ад'язджае ў Беласток у $14^{12}$ у Чаромху прыйшло некалькі дзесяткаў падарожных, бо гэта самы акуратны поезд для школьнікаў, каб вярнуцца ў панядзелак на раннія заняткі, як і для дарослых пасля наведвання сваякоў у родных мясцінах. Ніхто ў білетнай касе не намякнуў, што цягнік будзе адменены.

Праўда, раней паступіла службовая тэлеграма дыспетчару чаромхаўскіх кандуктараў (як і да ўсіх білетных касаў на чыгуначнай лініі Чаромха — Беласток), што ад 1 кастрычніка спыняецца курсіраванне поезда Чаромха — Беласток у $14^{12}$ (у нядзелі і святы), як і вяртанне яго з Беластока ў $18^{30}$. Але мела гэта абавязваць ад 1 кастрычніка, а не ад 26 верасня.

— Няўжо гэта першакрасавіцкі жарт? — думаў кіраўнік поезда, які выйшаў на перон і не ўбачыў свайго падстаўленага цягніка.

Калі з Чаромхі пазванілі ў Беласток і выявілася, што цягнік у $14^{12}$ не адыдзе, сярод падарожных пачуліся нецэнзурныя словы, лаянкі і праклёны ў адрас чыгуначнікаў. А чаму ж вінаўнымі рабіць чарамшукоў, калі загад выдаў начальнік Прадпрыемства па перавозцы пасажыраў у Беластоку.

На маю думку, адказныя за чыгунку чыноўнікі павінны патрабаваць высвятлення скандалу.

Нельга ўявіць сабе таго, што адчувалі падарожныя на ўсёй лініі, якія чакалі гэтага поезда.

Юрка Р., напрыклад, вярнуўся ў Чаромху пасля работы на дзве гадзіны пазней.

— Спачатку я думаў, што мой цягнік паехаў, або нешта з гадзіннікам было не ў парадку, бо прыехаўшы з Кузніцы не застаў я свайго поезда ў перонах (на перасадку заставалася 7 мінут). Але, калі дзяжурная сказала, што з Чаромхі цягнік не прыйшоў, усё зразумеў. Людзі гурбой хадзілі за дзяжурнай і кідалі няветлівыя эпітэты ў адрас чыгуначнікаў. А ў Бельску-Падляшскім таксама многа падарожных чакала гэтага цягніка, — гаварыў мой суразмоўца, — што Янка К. (кандуктар з Беластока) „залапаўся" толькі на трэці аўтобус. Спазніўся на працу.

І дзеля чаго гэты балаган? Каму ён патрэбны?

Мне здаецца, што не прынёс ён карысці ані дзяржаўнай чыгунцы, ані таму начальніку, які прыдумаў загад аб адмене цягніка. Больш можна сказаць, гэта ж адзін з рэнтабельных нядзельных паяздоў!

**Уладзімір Сідарук**

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Газеты пра беларусаў

Тры маладзёжныя газеты: „Z pogranicza", „Inny świat", „Głos puszczy" — вынік дзесяцідзённых журналісцкіх варштатаў „Polis", якія 15-25 ліпеня г.г. праходзілі ў Старыне. Разам з маладымі журналістамі „Polis" працавалі таксама карэспандэнты „Зоркі" і выпускнікі Гайнаўскага беларускага ліцэя. Супрацоўніцтва прынесла багаты і разнавідны плён: рэпартажы, фельетоны, інфармацыі, інтэрв'ю, спробы эсэ, этнаграфічныя нарысы, запісы-дзённікі.

Галоўнай тэмай усіх публікацый з'яўляюцца праблемы польска-беларускага памежжа. Вялікая ўвага адведзена справе талерантнасці і грамадзянскай адукацыі. Большасць артыкулаў прысвечана праблемам маладых беларусаў, іх асіміляцыі. Надта цікавымі атрымаліся рэпартажы са Старыны, героямі якіх з'яўляюцца мясцовыя людзі. Вялікую частку публікацый складае творчасць нашых журналістаў: Жанэты Ролі, Міхася Сцепанюка, Асі Масайлы і Ігара Іванюка. Ася Масайла стала нават лаўрэаткай журналісцкага конкурсу на найцікавейшы ліст да сябра (апісвае яна жыццё летніка). Выявілася, што выхаванцы Сустрэч „Зоркі" дасканала адчувалі сябе сярод польскіх аднагодкаў. Дарэчы, нярэдка выклікалі іх зайздрасць, бо адначасова пісалі тэксты на беларускай і польскай мовах. Да таго праславіліся як героі многіх артыкулаў. Самыя цікавыя публікацыі згаданых газет надрукуем у „Зорцы". Думаю, што варта пазнаёміцца з поглядам на нас саміх польскіх аднагодкаў.

* * *

18 і 19 верасня г.г. у Польскай акадэміі мастацтваў у Варшаве адбыліся чарговыя прэзентацыі праграм, якія супрацоўнічаюць з Польскім фондам дзяцей і моладзі. Гэтым разам мерапрыемства праходзіла пад лозунгам „Przyjazna szkoła". Разам з аб'яднаннем „Polis" была запрэзентавана праграма Сустрэч „Зоркі". На стэндзе „Polis" былі паказаны нумары „Зоркі", якія рэдагавалі нашы карэспандэнты — удзельнікі журналісцкіх варштатаў. У Варшаве гасцявалі таксама валанцёры з Навагрудка Таццяна Цырук і Ларыса Бухаленка, якія вядуць праект „Зялёная карова".

**ЗОРКА**



*Восень.* Фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

Міра ЛУКША

### Певень Рыгор

Певень Рыгор  
Упэўнены ў тым:  
Сонца з-за гор  
Вызвана ім!  
Раскукарэкаўся  
На ўсё сяло.

І справа ўся:  
„Зрабіў святло!"  
Так ва ўсю моц  
Весціць пявун:  
„Я прагнаў ноч!"  
Верце яму!

Францішак КАБРЫНЬЧУК

### Бабёр

З яго вялікі будаўнік  
Хоць і вучыцца не прывык.  
Ён без сякеры, без пілы  
Зрэзвае тоўстыя ствалы  
Дрэваў, што маюць шмат гадоў,  
пры помачы сваіх зубоў.  
Ён у бабрынай грамадзе  
Дамы будуе на вадзе.

### Каркае варона

Каркае варона,  
калі зайца ўбачыць:  
— Чаму ты, шалёны,  
Не ходзіш а скачаш?

— Барозны ў полі,  
У кожнай з іх вада.  
Скачу, бо мне футра  
памачыць шкада.

*З польскай пераклаў Віктар ШВЕД*

Мажэна ЖМЕНЬКА

### Змяніць свет

Паплывуць дрэнныя думкі  
Адыдуць кашмары  
Адляцяць людскія сэрцы  
А мы, загубленыя ў сабе  
Сядзем у карабель надзеі  
І адляцім далёка...  
Украдзем рознакаляровыя воблакі  
Засвецім усе зоры  
І лабірынтам жалю  
Дойдзем да брам раю

## Польска-беларуская крыжаванка № 41

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 📖 | Strych | 📖 | Dom | Jawa | ▼ | 📖 | Porządek |
| Droga | ▼ | Rosa | ▼ | Głowa | | 📖 | ▼ |
| ► | | ▼ | | ▼ | | 📖 | |
| Rama / Ryż | ► | | | | 📖 | 📖 | |
| ► | | | Łatka / Szum | ► | | | |
| Szosa | ► | | ▼ | | Ar | 📖 | |
| Koszmar | | Uwaga | ► | | ▼ | | |
| ► | | | | | | 📖 | |

**Адказ на крыжаванку н-р 36:** Яр, саян, дыямент, крама, ара, ганчар, сык. Баяр, яма, немач, мара, рот, ар.

Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі: **Святлана Барэль** з Ваўкавыска і **Наталля Сцепанюк** з Беластока. **Віншуем!**

Уладзімір АРЛОЎ

## Адкуль наш род — апавяданні па гісторыі Беларусі

***(працяг; пачатак у 38 н-ры)***

**Росквіт Полацкай дзяржавы**

За Усяславам Полацкае княства дасягнула найбольшай магутнасці. Ягоную ўладу прызнавалі Віцебск, Браслаў, Заслаўе, Ворша, Копысь, Менск, Лукомль, Лагойск, Друцк, Барысаў, Крывіч-горад, які стаяў на месцы цяперашняй Вільні... Полацку плацілі даніну продкі сучасных латышоў. Парадніцца з Чарадзеем хацелі самыя знакамітыя валадары з іншых дзяржаў. Усяславава дачка стала жонкаю імператара вялікай і багатай краіны Візантыі.

У Полацку тады жыло дзесяць тысяч чалавек. Такіх буйных гарадоў на свеце было мала, а Масква, напрыклад, яшчэ зусім не існавала.

Князь з сям'ёй займаў двухпавярховы драўляны храм са святліцамі і пачывальнямі, з вялікай палатай, дзе магло сесці за стол сто гасцей. У княжых стайнях білі капытамі зямлю сотні коней. У сховішчах было багата харчовых прыпасаў і зброі.

Далёка ў свеце ведалі полацкіх купцоў. Часцей за ўсё яны везлі ў другія краіны воск, мёд і футра каштоўных звяроў: собаляў, гарнастаяў, вавёрак, лісіц... Іншаземныя купцы прадавалі нашым продкам соль, алей, віно, медзь, свінец і волава. Такіх грошай, як цяпер, не было, і людзі разлічваліся на рынках срэбнымі зліткамі або вязкамі шкур.

***(працяг будзе)***



*Гурт „Антось і Бандэрас".* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Музычны экспрэс

# Гурт „Крыві": музыка, якая прыйшла... з Індыі

Гурт „Крыві" быў створаны ў 1997 годзе як праект знакамітага беларускага фальклорнага гурту „Палац". Сярод стваральнікаў непасрэдныя ўдзельнікі „Палаца": Вераніка Круглова, Зміцер Вайцюшкевіч і Юрась Выдронак; Вераніка — вакалістка, Зміцер іграў на шматлікіх інструментах, Юрась рабіў камп'ютэрныя аранжыроўкі.

„Музыку, якую мы бярэм за аснову, увогуле цяжка назваць цалкам беларускай. Гэта музыка, якая прыйшла з Індыі і прайшла пэўныя мутацыі тут, на тэрыторыі Беларусі. І сэнс у тым, што гэты суперстаражытны пласт культуры бярэ пачатак ад таго народа, які прыйшоў на гэтую зямлю. Адсюль уся тая энергетычная моц, якая генетычна звязана са старажытнымі пакаленнямі, з іх навукай, культурай, з космасам", — гавораць удзельнікі гурту.

„Крыві" працуюць у стылі аўтэнтык-джаз-эксперымент, спалучаючы старажытныя традыцыі гарлавога спеву і сучаснага гучання з элементамі імправізацыі. У сваіх праграмах гурт выкарыстоўвае аўтэнтычныя інструменты, якія зроблены па старадаўніх тэхналогіях: гэта ліра, дуда, жалейка, гудок, флейты, а таксама гітара, кларнет, перкусія ды саксафон.

Увесь рэпертуар удзельнікі гурту ствараюць на аснове матэрыялу, сабранага ў фальклорных экспедыцыях па беларускіх вёсках.

Дарэчы, у адной з першых сваіх фальклорных экспедыцый, якая праходзіла па Магілёўскай вобласці, удзельнікі гурту пазнаёміліся з вельмі цікавай бабуляй, якую завуць Феня Казлова. Бабуля Феня напела „Крыві" асновы іх рэпертуару ды, наогул, яна так спадабалася гурту, што зараз выява бабулі Фені ў навушніках з'яўляецца сімвалам гурту „Крыві".

Першыя самастойныя выступленні гэтага беларускага фальклорнага гурту адбыліся, як ні дзіўна, за межамі Беларусі, а менавіта ў Берліне. Вынікам гэтай паездкі ў Нямеччыну стаў кампакт-дыск „Kriwi live in Berlin", запісаны ў сакавіку 1997 года.

У ліпені 97-га года гурт „Крыві" становіцца дыпламантам Міжнароднага фестывалю „Голас Азіі", што праходзіў у горадзе Алматы, і атрымлівае шэраг спецыяльных, вельмі каштоўных для гурту прызоў, сярод якіх — сінтэзатар „Roland", казахскі народны інструмент, а таксама флейта.

У маі 1997 года гурт запісвае альбом „Hei Loli". І ў хуткім часе „Крыві" нарэшце заўважаюць і на Радзіме, як вынік — у штогадовай „Рок-каранацыі" яны сталі лаўрэатамі ў намінацыі „Традыцыі і сучаснасць", выцясніўшы гурт „Палац", які раней два гады запар атрымліваў гэтую ўзнагароду.

Летась з-за ўзніклых унутраных праблем гурт пакідае аранжыроўшчык Юрась Выдронак, а ў хуткім часе „Крыві" запрасілі да сябе аднаго з лепшых у рэспубліцы гітарыстаў — Піта Паўлава. Новы ўдзельнік даволі арганічна ўліўся ў склад гурту, і наступны альбом „Крыві" быў запісаны ўжо пры непасрэдным удзеле Піта Паўлава.

Дарэчы пра новы альбом. Ён быў запісаны ўвосень 98-га года і мае назву „За туманам". Альбом адрозніваецца ад папярэдняга мінімальным выкарыстаннем камп'ютэра. Акцэнт рабіўся на эксперыменты з голасам і асобнымі інструментамі. На загалоўную песню альбома ўжо зняты відэакліп, які можна ўбачыць на БТ.

**Алька Навасёлкіна**



*Кася Гэва з Нарвы.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Ці звычайны летнік?

Пасля прачытання ўсіх інфармацый пра дзейнасць рэдакцыі выявілася, што праграма і тэмы газеты „Z pogranicza" для мяне найцікавейшыя. Без ніякіх сумненняў я пайшоў на кваліфікацыйную размову. Ужо ў пачатку мяне насцярожыла няведанне рэдактарамі не толькі мясцовага дыялекту, але і ўвогуле рускай мовы. Здаецца, што наша газета „Бельскі гостінэць" была ўспрынята як беларуская. Надзвычайнае! Гэта ж найбольш спаланізаваны часопіс, які выдаецца беларусамі! Адкуль, аднак, людзі з цэнтральнай Польшчы ведалі б рускую мову, калі гэты прадмет ужо даўно выведзены са школ? Калі гаварыць пра веданне падляшскага дыялекту, трэба адзначыць, што і не ўсе жыхары нашага рэгіёна ведаюць гэту мову. Дык цяжка мець прэтэнзію да людзей, якія пачулі наш дыялект першы раз у жыцці.

Найперш мне здавалася, што на летнік прыехалі нейкія філістры, якіх нішто не цікавіць, якія хацелі б адпачыць лежачы жыватом дагары. Ужо ў час першай рэдакцыйнай сустрэчы выявілася, што гэта няпраўда. Людзі з рэдакцыі „Z pogranicza" не толькі руплива кінуліся з галавою ў працу, ды яшчэ пацікавіліся жыхарамі вёскі. На вуліцу Старыны выйшаў табун журналістаў. Усе шукалі інфарматараў, якія расказалі б пра тутэйшае жыццё. Тыя, што выйшлі крыху пазней, не знайшлі ўжо сабе вольнага субяседніка-інфарматара. Нягледзячы на ўсё, у рэдакцыі было неяк дзіўна. Справа не ў тым, што мы мелі процьму абавязкаў, бо папраўдзе працы было ў сам раз. Мяне здзівіла тое, што артыкулы былі праверaны супольна з аўтарам. Я за крытыкай — бо яна патрэбная. Патрэбныя парады. Аднак маладыя журналісты могуць у такі спосаб знеахвоціцца да далейшай творчасці. Можа трэба было б запытаць у аўтара, ці хоча ён, каб яго тэкст правяралі ў яго прысутнасці? Думаю, што нямала такіх, якія хацелі б мець ужо правераную і папраўленую працу.

Едучы ў Старыну, я, як беларус, прадстаўнік нацыянальнай меншасці, пра якую мела ўзнікнуць многа публікацый, меў правa на некаторыя засцярогі. Апрача наладжвання кантактаў з мясцовымі жыхарамі мяне маглі абмінуць у іншых задачах. Ніхто ж не ведаў як пішу, які ў мяне стыль. Думаю, што такога я не перажыў бы! Я абажаю журналістыку.

Рэчаіснасць паказалася іншай ад спадзяванняў. Усе без выключэння атрымалі задачы. Што мяне здзівіла, як на асобу малавядомую для „Polis", я атрымаў сур'ёзныя прапановы. Пра гэта, мабыць, вырашыла маё шматгадовае супрацоўніцтва з „Нівай". Калісьці я думаў, што апрача маладых супрацоўнікаў „Нівы", ніякі малады чалавек не займаецца журналістыкай. А тут я пабачыў, як многа асоб зацікаўленых такой працай. Магчымасць знаёмства, удзельніцтва ў занятках узбагаціла мяне сапраўды вельмі многа. Цікава — ці знаёмства з беларусамі, іх праблемамі дапамагло ў нечым іншым удзельнікам летніка.

**Міхал Сцепанюк,**
**І кл. Агульнаадукацыйнага белліцэя ў Бельску-Падляшскім**
*„Z pogranicza"*

# Фестываль вольнай Беларусі

Гэты дзень асаблівы. У кампаніі Анкі (сяброўкі з летніка) я еду ў лес непадалёк Гарадка, дзе ад учора трывае Фестываль беларускай музыкі „Басовішча". Дзякуючы спагадзе адной з працаўніц нашага асяродка адпачынку, амаль усю дарогу едзем машынай. Толькі апошні адрэзак мы вымушаны пераехаць аблезлым ПКСам, у цяжкіх умовах. Спыняемся ў Гарадку каля сёмай вечара і зразу ідзем у кірунку, які ўказваюць многія групы вясёлых маладых людзей, што няспешна цягнуцца ў бок лесу. Пасля кароткай хвіліны мы знаходзімся на вялікай лясной паляне.

Атмасфера такогу тыпу мерапрыемстваў перш за ўсё залежная ад людзей. У Гарадок прыязджаюць паклоннікі металу і панкі, хаця ёсць таксама прадстаўнікі іншых субкультур. Усе поўнасцю свабодныя, скачуць, бегаюць, крычаць або ў іншы спосаб пазбягаюць нагрузкі сваёй энергіі. Такую публіку можа прызваць толькі добрая музыка. На сцэне дамінуе рок, панк, метал і фольк. Файную забаву гарантуюць такія гурты як „НРМ", „Новае Неба",„Палац", „Уліс" і, зразумела, „Культ", на канцэрт якіх прыбыло найбольш людзей. „Культ" іграў да світання. Перад сцэнай панаваў рух тыповы для такога роду канцэртаў. У ашалелым танцы сярод разгулянай публікі можна скінуць некалькі кілаграмаў вагі. У атмасферы верашчання, енку, дыму і музыкі, у шалёным танцы выгібаюцца целы ахінутыя максімальным трансам фанаў. Фестывалю дадае атракцыйнасці яго беларускасць. Увесь час відаць у гары бел-чырвона-белыя сцягі Беларусі. Можна пачуць таксама беларускую мову. Многія маюць на сабе кашулі ў нацыянальных колерах Беларусі або з яе гербам (гістарычным). Такія фестывалі надта выразна паказваюць непаслухмянасць маладых беларусаў у адносінах да парадку ў іх краіне ды таксама ахвоту да пекла гульні ў прамым значэнні гэтага слова. На канцэрце няма падзелу на лепшых і горшых у нацыянальным сэнсе. Усе тут роўныя, і беларусы, і палякі. Пануе тут вялікае сяброўства і зразуменне. І не важнае, хто адкуль. Калі б больш людзей прыходзіла на такія імпрэзы замест сядзець у хаце і марнаваць час і энергію ля тэлевізара, свет быў бы намнога лепшы. І больш сяброўскі як цяпер.

**Эміль Тамчук, VIII кл., Варшава**
*„Z Pogranicza"*

# „Пан Тадэвуш", Міцкевіч і Вайда

19 верасня, у нядзелю, у падваршаўскай мясцовасці Тэрэсін распачалася рэкламная кампанія фільма Анджэя Вайды „Пан Тадэвуш" паводле аднайменнай паэмы Адама Міцкевіча. У Тэрэсін прыбыло больш за дзве сотні журналістаў. Адразу ж іх сустрэлі афіцыянты, якія прапанавалі гарачы, малочны алкагольны кактэйль. Усё мерапрыемства адбывалася на адкрытым паветры. Там жа стаяў доўгі канферэнц-стол, за якім засела плеяда зорак польскай кінематаграфіі, прадзюсэры ды менеджэры: Анджэй Вайда, Данель Альбрыхскі, Анджэй Сэвэрын, Кшыштаф Кольбергер, Міхал Жаброўскі ды іншыя. Аднак найбольшую ўвагу журналісты звярнулі на Гражыну Шапалоўску, якая мала таго, што спазнілася (вядомы трук: спазніцца, каб звярнуць на сябе ўвагу), то паводзіла сябе так, як галоўная гераіня анекдотаў пра бландзінак. Пытанняў было многа, а ўсе ўдзельнікі прэс-канферэнцыі зазначылі, які вялікі ўплыў аказала на іх вядомая паэма Міцкевіча. Анджэй Вайда сказаў, што прачытаў „Пана Тадэвуша" ва ўзросце 13 гадоў, аднак тады найбольш запамятаў ілюстрацыі мастака Андрыёлі, чым тэкст. Леў Рывін — галоўны прадзюсер фільма, таксама напомніў сваю „прыгоду" з „Панам Тадэвушам". У 1959 годзе разам з сям'ёй у рамках рэпатрыяцыі ён прыехаў з Пінска ў Польшчу. Рывін зазначыў, што першай кнігай, якую ён прачытаў, практычна не валодаючы польскай мовай, быў менавіта „Пан Тадэвуш" Адама Міцкевіча. „А паколькі слаба ведаў польскую мову, то ўжо праз некалькі месяцаў настаўніца ставіла двойкі за гэтую ж паэму, якая была ў школьнай праграме", — з ноткай гумару гаварыў прадзюсэр, дадаўшы, што ў суме прачытаў эпапею Міцкевіча шэсць разоў.

Прэс-канферэнцыя была толькі ўступам да другой часткі імпрэзы. Адразу ж большасць удзельнікаў накіравалася да воза, на якім ляжалі лазовыя кошыкі, ды пашыбавалі ў лес па... грыбы. Вядома, што ў парку — хоць ён і прыпамінаў лясны масіў — грыбы не растуць, аднак арганізатары раней купленыя дары лесу расклалі пад дрэвамі, хітра замаскаваўшы лісцямі. Грыбы былі пазначаны каляровымі гумкамі і калі нехта сабраў найбольш „гумовых" грыбоў, атрымліваў ад спонсара рэкламнай кампаніі фільма спадарожнікавую прыстаўку і дэкодэр. „Аднак увага, шаноўнае спадарства, у лесе ёсць мядзведзь, які забірае грыбы", — аб'явіў вядучы. І сапраўды, па лесе гойсаў мядзведзь (пераапрануты акцёр), якому ўсё ж такі ўдалося ў некалькіх чалавек забраць грыбы, а прынамсі напужаць.

Выйшаўшы з грыбоў, усіх ужо чакалі густа застаўленыя сталы, якія дызайнам ды стравамі напаміналі XIX стагоддзе, а да ўсяго — халодная гарэлка, піва альбо віно.

Несумненна, кінаадаптацыю „Пана Тадэвуша" Міцкевіча можна назваць рэвалюцыйным крокам, у гэта трэба ўкласці многа сілы і не менш грошай, хоць асабіста я скептычна адношуся да такіх эксперыментаў. Магчыма, пагледзеўшы фільм, памяняю свой пункт погляду, аднак існуюць пэўныя рэчы, якія з'яўляюцца свайго роду скарбамі, брыльянтамі — у дадзеным выпадку літаратуры, а брыльянт ён адзіны і непаўторны, копія застанецца заўсёды копіяй. Пярсцёнак з алмазам (літаратурны „Пан Тадэвуш") будзе інакш выглядаць у параўнанні з пярсцёнкам на такой жа форме з рубінам (кінаверсія „Пана Тадэвуша"). Алмаз ён і ёсць алмаз...

Мінулай восенню адзначаўся юбілей Адама Міцкевіча. „Паэт, які быў палякам, нарадзіўся ў Беларусі, а апісваў Літву", — часта можна было пачуць у рознага тыпу прамовах ды інтэрв'ю. Зараз, зараз, пачакайце: якую Літву, цяперашнюю? Часам вельмі балюча ад такой гістарычнай няпраўды, балюча, што многія адукаваныя людзі ўспрымаюць цяперашнюю Літву ў якасці спадкаемца Вялікага княства Літоўскага. Цяперашняя Літва ў этнаграфічным сэнсе тады называлася Жмуддзю ды Аўкштотай, а ВКЛ было тыпова беларускай, у цяперашнім сэнсе слова, дзяржавай. Калі гэта няпраўда, то як успрыняць словы Сапегі, беларускага магната, які пісаў у прадмове да статута ВКЛ: „Не обчим яким языком, але своим властным права списаные маем и каждого чого нам потреба ку отпору всякое крывды ведати можем".

Цяперашні герб Літвы — гэта тыпова славянскі, беларускі дзяржаўны знак. Літоўцы, якія з'яўляюцца балтамі, мелі зусім іншы герб: сярэбраны мядзведзь на блакітным полі. Здзіўляе мяне толькі, што амаль адсутнічае беларуская тэматыка, калі гаворка ідзе пра ВКЛ альбо таго ж Міцкевіча. Не ўспамінаю вышэйапісанай імпрэзы, дзе можна было пачуць, што „Міцкевіч нарадзіўся на тэрыторыі цяперашняй Беларусі, тады гэта была Літва". А ці славуты паэт размаўляў на цяперашняй літоўскай мове? Не, ён размаўляў на тагачаснай літоўскай мове, якая цяпер называецца беларускай.

Аднак, час ад часу, у цемры гістарычнай неадукаванасці знаходзіцца чалавек з факелам. Некалькі тыдняў таму па тэлебачанні глядзеў я перадачу, у якой госцем быў вядомы польскі мовазнаўца прафесар Ежы Бральчык. Пры нагодзе прыгадаю, што гэта былы мой выкладчык, надзвычай разумны, адукаваны ды проста прыемны чалавек. Якое ж было маё здзіўленне, калі прафесар Бральчык сказаў, што Міцкевіч — напалову паляк, напалову беларус, з часткай яўрэйскай крыві, а ўвогуле дык пісаў пра Беларусь. Такія словы ад такога аўтарытэта! Больш энергіі, якая зараджвае беларускія, нацыянальныя акумулятары, чалавек атрымаць не можа.

Як бы там не было, на фільм Анджэя Вайды „Пан Тадэвуш" я збіраюся таму, што гэта свайго роду частка Міцкевіча, які так сапраўды па нацыянальнасці то быў...

**Валеры Саўко**
**Беларуская служба Польскага Радыё**

# Дзякуй, мой дарагі дружа!

Была я ў ліпені ў Беластоку на навуковай канферэнцыі „Шлях да ўзаемаразумення", але не пра канферэнцыю хачу напісаць, а пра чалавека, з якім пазнаёмілася на ёй.

Сядзелі мы на пасяджэнні за адным сталом і, пакуль адбываліся выступленні навукоўцаў, перашэптваліся час ад часу. Зацікавіў яго спачатку мой акцэнт у беларускай мове, падобны да таго, як гавораць у яго роднай вёсцы Грабавец. „Нічога дзіўнага, — адказала я, — я часам забаўляюся, зацягваючы „па-чохувоцку", бо мой мужык з Чахоў-Арлянскіх, распалажаных непадалёк Грабаўца, і там я навучылася іх гаворкі". Так слова за слова пачалася размова, якая працягвалася і ў перапынак, і пры абедзе ў рэстаране. Прыцягвала мяне ў маім суразмоўцы шчырасць у вачах, якая гаварыла аб шчырасці душы, дабрыні і лагоднасці. Я наогул люблю вясёлых дасціпных людзей і ў гэтым старэйшым чалавеку адкрыла для сябе сябра. Па некалькіх хвілінах знаёмства мне здавалася, што знаю яго ўсё жыццё. Гэта быў сябра, з якім магла пажартаваць, пасмяяцца, так як бы ён быў маім равеснікам, а не равеснікам маёй бабулі. Размаўляючы з ім я не заўважала розніцы ў гадах. Як гаворыцца, мы „надавалі на адных хвалях".

Час пры нашай размове праляцеў хутка. На другі дзень канферэнцыі ўвечары мы развіталіся і я атрымала ад свайго сябра ягоную кнігу з аўтографам. Кніга называлася „Клавуня, гэта я, твой Вася".

Адвезлі мяне на станцыю ПКСу, і я, купіўшы білет у Гайнаўку, пайшла на прыстанак, каб ужо там чакаць свайго аўтобуса, да якога было яшчэ больш за гадзіну. Каб скараціць час, выцягнула атрыманую кнігу і пачала чытаць. З першых радкоў кніга захапіла мяне так, што я не магла адарвацца ад яе. На прыстанак прыходзілі людзі, але я не звярочвала на іх увагі, толькі старалася не засмяяцца ўголас, каб людзі не падумалі чаго нядобрага пра мяне.

Адарвалася ад кніжкі толькі тады, калі да прыстанку пад'ехаў аўтобус і людзі пачалі сядаць у яго. Села і я. Не глядзела на гадзіннік і не ведала каторая гадзіна. Ехала, чытала і здагадалася, што села не ў той аўтобус толькі тады, калі ён скрунуў з шашы на якуюсьці палявую дарогу, а пасля паехаў праз лес. Занепакоілася, пайшла да шафёра па параду як папасці дамоў. Шафёр пажурыў мяне за няўвагу і супакоіў, што ў Нарве паспею яшчэ сесці ў свой аўтобус.

Прыехаўшы дадому адлажыла я ўсе свае хатнія справы набок і паглыбілася ў чытанне. Чытала і перачытвала. Чытала сабе і ўголас свайму мужу. Чытала на рабоце сваім супрацоўнікам, чытала знаёмым. Пасля адвезла кнігу сваім бацькам у Беларусь, і там усе чыталі яе з вялікім захапленнем.

Думалася, што жыццё ў аўтара — сама прыемнасць, што ён не пазнаў на сваім вяку нічога прыкрага, калі можа нават самыя сур'ёзныя і непрыемныя справы абарочваць у жарт. Так я думала, пакуль нядаўна не трапіла мне ў рукі кніга „Пожня", у якой аўтар апісвае сваё дзяцінства і юнацтва. Жах і жаль агарнулі мяне. Гэтую кнігу таксама „праглынула" за адзін прысест і ўвесь час думала, як мог малы хлапец выжыць у гэтых умовах і не звар'яцець, як мог вытрымаць усе здзекі і паніжэнні, і як зямля магла трымаць тых, хто здзекаваўся над сіратою. Што ўсё напісанае — праўда, не сумнявалася я ні аднай хвіліны, бо такое штосьці не перажыўшы не прыдумаеш.

Па прачытанні гэтай кнігі мой знаёмы вырас у маіх вачах яшчэ больш.

Я схіляю перад ім галаву. Я кажу яму: „Дзякуй! Шчырае дзякуй за тое, што не ўзлаваўся на свет, на жыццё, што не стараўся адпомсціць за крыўды, што астаўся да старых гадоў чыстым душою і мыслямі, што да гэтае пары гатовы аддаць людзям усю душу, а, калі трэба будзе, то і апошні кавалак хлеба аддаць. Дзякуй, шчырае дзякуй, мой дарагі дружа.

У сваім штодзённым жыцці сустракаюся з рознымі людзьмі. Даволі часта спатыкаюся з варожасцю, злосцю ці, што найгоршае, з абыякавасцю. Калі пасля такіх сустрэч маю кепскі настрой, бяруся за адну з кніжак Васіля Петручука і чытаю. Гэта як размова з сябрам памагае. Калі я ў добрым настроі ці здараецца ў мяне штосьці цікавае, бяру за тэлефон і званю майму сябру дадому, каб падзяліцца з ім сваімі поспехамі, сваімі радасцямі. Як музыка гучыць для мяне яго зычлівы голас, такі родны і блізкі.

Добра мець такога сябра.

Дзякуй, Васіль!

**Наталля Герасімюк**

# Барыс у Цішыні

13 верасня г.г. белавежскаму паэту Барысу Руско споўнілася 70 гадоў. Белавежскі асяродак культуры падрыхтаваў яму з гэтай нагоды прыемны гасцінец у выглядзе новага зборніка вершаў на польскай мове п.з. „Pełzanie po Ciszy"* (Поўзанне па Цішыні). Год раней БАК, супольна з Надлясніцтвам Белавежа, выпусціў іншы зборнік гэтага паэта п.з. „Wołanie w Puszczy Białowieskiej". Такім чынам Б. Руско мае ўжо свае два зборнікі.

Новы зборнік змяшчае 116 вершаў. Яны згуртаваны ў шэсць тэматычных кругоў, у якіх звычайна рухаецца паэт: поры года, пушча, рэлігія-містыка, існаванне, філасофія, каханне. Дзеля поўнага вобразу творчых пошукаў паэта трэба яшчэ ўспомніць, што раней ён пісаў шмат вершаў для дзяцей. Падборку найцікавейшых (каля 30-ці) рыхтуе зараз да выдання Анджэй Антчак з Надлясніцтва Белавежа. Ён задумаў, каб гэтыя вершы праілюстравалі сваімі малюнкамі белавежскія дзеці. Б. Руско піша яшчэ сентэнцыі і кароткія творы, якія Гергій Валкавыцкі назваў „радкамі з клічнікам".

Зараз паэт падрыхтаваў падборку найлепшых твораў з амаль дваццацігадовага свайго творчага перыяду. З гэтага склалася восем зборнікаў, якія будуць чакаць свайго выдаўца. Іх рабочыя загалоўкі: „Szelest barw", „Powiew puszczy", „W płatkach snu", „Pochylenie się nad źródłem", „Księżyca nieśmiałe stąpanie", „Zawirowania", „Uciekające horyzonty", „Pnącza myśli". З усіх названых, шанц найхутчэй надрукавацца мае першы зборнік, да якога Вальдэмар Смашч канчае пісаць рэцэнзію.

Той самы літаратурны крытык ацэньваў два першыя зборнікі Барыса Руско. У рэцэнзіі на „Поўзанне па Цішыні" называе белавежскага творцу не інакш, як паэтам „з Божай ласкі". Паводле яго, Б. Руско — „адораны паэтычным бачаннем свету, тым глыбокім, не патрабуючым ані азарэння, ані нават свята? Паэт „з найглыбейшых слояў уражлівасці патрапіць дастаць вобразы вялікай прыгажосці, лёгкія і лётныя". Паэту напэўна памагае ў гэтым зберажэнне ў сябе „дзіцячай уражлівасці". Менавіта яна памагае яму „захоўваць безупынную гатоўнасць да здзіўлення і захаплення светам".

Б. Руско перш за ўсё лірычны паэт. Гэта яго асноўная плынь, у якой рухаецца найахвотней і найдасканалей. Штосьці з той плыні заўважаецца нават у вершах з цыкла рэфлексійна-філасофскай задуменнасці над жыццём, чалавекам і светам наогул. Гэта найбольш складаная частка творчасці паэта. Яна патрабуе ад чытача глыбокіх ведаў з галін філасофіі, фізікі, астраноміі. Інакш іх звычайнаму чалавеку немагчыма правільна зразумець.

У сваёй рэцэнзіі В. Смашч аналізуе некалькі вершаў, раскрываючы чытачу найважнейшыя іх вартасці і таму варта з ёй азнаёміцца. Чытач, які захоча купіць томікі „Поўзанне па Цішыні" і „Кліканне ў Белавежскай пушчы" павінен звярнуцца непасрэдна ў Белавежскі асяродак культуры, які займаецца продажам абедзвюх кніжак.

**Пётр Байко**

* Borys Russko, *Pełzanie po Ciszy*, Białowieski Ośrodek Kultury, Białowieża 1999, ss. 151.

# Па слядах мінулага



*Колішнія суражскія цэрквы. Графіка Барыслава Рудкоўскага.*

**Сураж**

Сураж на рацэ Нарве — адзін з самых старажытных гарадоў Падляшша. Суражскае гарадзішча, заснаванае ў XI стагоддзі, выконвала ролю адміністрацыйнага цэнтра рускага княства. Узнікненне гэтага цэнтра паспрыяла засяленню гэтых зямель у раннім сярэдневякоўі. Руска-мазавецкая мяжа ў XI-XIII стагоддзях не была ўсталяваная і насельніцтва беспераашкодна пранікала ўглыб тэрыторый сваіх суседзяў.

У сярэдняй частцы Падляшша рускі і польскі элементы перамешваліся між сабою і ў выніку да назваў пасяленняў трэба было дабаўляць прыметнікі *рускі* або *ляцкі*. Гэтую з'яву можна красамоўна наглядаць у назвах частак мястэчка Суража і ягоных вуліц.

Трэба таксама звярнуць увагу на гарадзішча Заячкі на правым беразе Нарвы, у 15 кіламетрах на ўсход ад Суража. Археалагічны помнік у выніку паводак амаль поўнасцю нівеліраваўся і аб яго наяўнасці сведчаць цяпер толькі назвы *Замчыска* і *Гарадзіска*. Гарадзішча ў выглядзе насыпу вышынёю 1-1,25 м раскінулася ў даліне ракі Нарвы, сярод падмоклых лугоў. Мае яно кругападобную форму дыяметрам да 35 м і абведзенае канавай. Гэты аб'ект датуецца на XI-XIII стагоддзі. Падчас археалагічных раскопак знойдзеных было некалькі вялікіх каменных пліт. Гэта схіляе меркаваць, што было гэта ўмацаванне горада, якое забяспечвала сувязь Суража з Бельскам (Сураж падначалены быў Бельску). Суражскі горад быў узведзены рускімі князямі пад канец XI ст. у якасці прадмесця Русі на левым беразе Нарвы.

Мазавецкае асадніцтва пашыралася на ўсход ад Лізы, а тэрыторыя на ўсход ад Суража і на поўнач ад Нарвы састаўляла паўночныя землі Бельска і Драгічына. Горад распаложаны быў па абодвух берагах Нарвы, спалучаных мостам. У адлегласці 30 м ад ракі знаходзіліся гарадзішча, валы вакол абарончага рова і колішні дзядзінец.

Паводле Стафінскага, аўтара манаграфіі мястэчка, Сураж у XI ст. належаў рускім князям, а ў 1241 г. знаходзіўся ў складзе Мазоўша і быў разбураны татарамі. Вялікі князь літоўскі Эрдзівіл Матавілавіч, сын Міндоўга, у 1244 г. заняў Сураж і аднавіў замак. У 1382 г. Кейстут, уладальнік Мазоўша, заняў Драгічынскую і Мельніцкую землі, у тым ліку і Сураж. У 1383 г. вялікі князь літоўскі Ягайла адабраў Сураж і суседнія гарады і ў 1384 г. перадаў іх Вітаўту. У 1392 г. замак быў знішчаны крыжакамі.

Падчас раскопак у 1992 г., у ходзе паглыблення падвала, знойдзены былі фрагменты керамікі, характэрнай начынням славян, канца VII і пачатку VIII стагоддзяў. Выяўленая выемка нагадвае паўзямлянку. Пракопій Кесарыйскі, візантыйскі гісторык перыяду імператара Юсціньяна VI, пра славян пісаў наступнае: „Жывуць яны ў убогіх зямлянках, расселены здалёк адзін ад аднаго. Пераважна кожны з іх некалькі разоў мяняе месца жыхарства". Сляды першабытнага асадніцтва знойдзены былі ў 200 метрах ад цяперашняга рэчышча Нарвы. Падручнік ваеннага майстэрства, напісаны на пераломе VI і VII стагоддзяў, паведамляе: „Паселішчы склавінаў і антаў распаложаны адно за адным уздоўж ракі і спалучаюцца з сабою так, што няма паміж імі ніякай больш значнай пераправы, а ў суседстве адны лясы, дрыгвяністае балота, чарот".

На Падляшшы паселішчы ўздоўж Нарвы цягнуцца ад сярэдняга цячэння ракі аж да Суража. Цэрквы паўсталі ў Нарве, Пухлах, Канюках, Рыбалах, Войшках, Кажанах, Страблі і Суражы. Горадам стаў Сураж у 1445 г. Нямецкае магдэбургскае права гарантавала аднолькавыя прывілеі суражанам як *лацінскай*, так і *грэцкай* веры.

У 1501 г. вялікі князь Аляксандр пацвердзіў магдэбургскае права. Кароль Зыгмунт у прывілеі для Бельска ад 5 студзеня 1507 г. запісаў Сураж, Бельск і Браньск у пажыццёвае карыстанне каралеве Галене: „Чыним знаменито сим нашим листом, штож з лаский нашое дали есьмо найяснейшой паней Королевой и великой ей мил Алене невестце нашой милой замок Бельск и месты з Суражом и з Бранском со всими бояры и слугами путными и людьми тяглыми и даники Бельск повета и з их всими землями даними грошовыми и з капшчынами и з мытными пенезми из чыны".

Цяжка адназначна вызначыць час узнікнення ў Суражы царквы, аднак можна меркаваць, што існавала яна падчас панавання рускіх князёў. Дакумент ад 1528 г. сведчыць пра спрэчку паміж суражскім плябанам і мяшчанамі *греческаго закону* за дзесяціну. Мяшчане даказвалі, што з іх, „з Русі, ніколі дзесяціны на касцёл не было". Прывілея князя Аляксандра, як і вырак Зыгмунта I абавязвалі русінаў плаціць даніну плябану. У 1562 г. у рэестры былі зафіксаваны цэрквы св. Спаса і св.св. апосталаў Пятра і Паўла.

Мястэчка падзялялася на Сураж-Ляцкі на левым, заходнім і Сураж-Рускі на правым, усходнім беразе Нарвы. У гэтым апошнім пры вуліцы Бельскай знаходзілася Петра-Паўлаўская царква. На левым баку мястэчка, пры Рускай вуліцы (сёння — Мастовая), насупраць вуліцы Спаскай знаходзілася царква св. Спаса. *Візіта* ад 1698 г. Спаскую царкву апісвае наступным чынам: „(...) opuszczona, przez nieprzyjaciół zrabowana, zniszczona przez swoją dawność i starość znajduje się blisko zamku, ledwo można poznać, że to budynek cerkiewny".

Спаская царква ў 1558 годзе мела 1 валоку зямлі, за якую плаціла чынш. У 1562 г. таксама адзначалася, што „Hermok, pop spaski" меў адну валоку зямлі і пры вуліцы Рускай з правага боку „idąc od rynku do mostu Narewskiego" першую парцэлу таксама меў „pop spaski 3 1/2 prętów oraz ogrodowych prętów 5 od płatu wolne". У 1569-1570 гг. на аснове каралеўскай прывілеі святар быў звольнены з платы чыншу. Пазней, як адзначыла *Візіта*, Спаская царква перастала існаваць. Паводле *Літоўскіх епархіяльных ведамасцей* ад 1895 г., на месцы царквы св. Спаса быў узведзены мураваны касцёл.

Петра-Паўлаўская царква ў 1547 г. была звольнена ад падатковых павінасцей. У 1558 г. „pop piotrowski" абрабляў 1/2 валокі грунтаў. У рэестры ад 1562 г. адзначаецца, што „sioło Zawyki, Wasil Siemenowicz pop ku cerkwi s. Piotra" мае адну валоку зямлі, а таксама „ku cerkwi s. Piotra w mieście Surażu stoiącey 1 włókę". Пры вуліцы Заблудаўскай з левага боку нерухомую маёмасць меў „pop Wasil Siemionowicz prętów 9 1/2 wolnych". У рэестры пералічваецца таксама „Wieremiej Dziak", які меў у „siole Hruskie Miesczkie" дзве моргі грунту. Пад № 1 зафіксавана яшчэ наступнае: „Proskircunei z popem Piotrowskim morgi 3 też w siele Hruskim. W siole Zawyki Iwan Bebko Chwieczko pop 1 włókę".

Са згаданых дакументаў вынікае, што ў Суражы былі 3 святары і дзяк, прыход і філіяльная царква. У рэестры ад 1562 г. уладальнікі зямельных участкаў носяць рускія імёны: Хведар, Фёдар, Іван, Ільяш, Андрушка, Пракоп, Ванюта, Васька, Верамей, Анісько, Грыч. У паасобных вёсках (Zawoiki, Dubki, Uzięble, Dorozki, Wyprotki, Tryczewki, Rozdoły Pomihacze i Klepacze) жыло 396 чалавек, у тым ліку 223 русіны, 113 палякаў і 60 асоб іншых нацыянальнасцей.

У метрычных кнігах рыбалаўскай царквы знаходзіцца такі запіс: „15 czerwca 1754 г. po południu o godzinie 4-tej przeszła wielka burza. W Surażu cerkiew defundo wywróciła y ściany w małe kawałki połamała, dzwony pozbijała. Szkody nigdy szacowanej poczyniła po Miastach, Miasteczkach y Wsiach".

***(заканчэнне будзе)***

**(агс)**

# Зноў на радзіме

Скора бягуць гады, а з імі старэем і мы. Пасівела і мне барада за пятнаццаць гадоў пражывання ў Ольштыне. Вядома, на чужыне і клопатаў больш, асабліва ж у цяперашні цяжкі грамадзянам нашай краіны час.

Еду з Ольштына ў Бельск на вяселле сястрынай дачкі. Сястра, Ліда Пятроўская, выйшла замуж 22 гады таму (тады я пісаў пра беларускі шлюб у Піліпках), а цяпер, 5 верасня, выдала замуж дачку Ліліяну. Маладых вянчаў сам благачынны а. Такарэўскі. Вясельная гасціна адбылася ў *малачарні*, у бары. Гуляла дзвесце гасцей, а ігралі і спявалі ім беларускія і іншыя песні славутыя „Прымакі". Раніцай хлопцы адвезлі мяне дадому.

Наведаў я таксама і інж. Барыслава Рудкоўскага, які многа працуе над карцінамі для трэцяга выдання „Тапаграфіі дарог". Быў я ў „Міні-максе" Галіны Вакулеўскай, якой крама на працягу пятнаццаці гадоў павялічвалася ўтрая і цяпер там такое багацце прадуктаў, як у магазінах Беластока ці Ольштына. У Відаве пралажылі водаправод і каналізацыю і цяпер на месцы былога кіёску ГСу стаіць перапампоўня сцёкаў, якая адводзіць іх у ачышчальню над ракою Белай; цяпер у Відаве як у горадзе, што і не хочацца ад'язджаць у Ольштын. Яшчэ зайшоў і да „Джона", дзе робіцца мнагалюдна асабліва пасля поўдня, калі сходзіцца сюды моладзь пагуляць у амерыканскую ігру „Арызона".

І мне хутка мінулі два тыдні ў Бельску.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК**

# Хваравітая цяга

У Бельску-Падляшскім хуткімі тэмпамі пашыраецца наркаманія, якая пачынае распаўсюджвацца і на суседнія гміны. Адурманьваючыя сродкі завозяцца сюды звонку. На маладзёжных мерапрыемствах найчасцей прадаюцца амфетамін і марыхуана. Гэтак званым „кампотам" з макавай саломы, які наркаманы вараць самі, карыстаюцца пераважна хранічна хворыя наркаманіяй.

Пашырэнню наркаманіі спрыяе нелегальнае вырошчванне адурманьваючых раслін. У мінулым годзе праваахоўнымі органамі было знішчаных 17 палеткаў маку і адно палетка каноплі. Паліцыя выявіла таксама 14 выпадкаў гандлю наркотыкамі, 6 выпадкаў вырабу адурманьваючых рэчываў і валодання апаратурай для іх вытворчасці ды дзве спробы фальшавання рэцэптаў на псіхатропныя лякарствы.

* * *

Што ж бывае прычынай хваравітай цягі да наркотыкаў ці алкаголю? Сярод моладзі вялікую ролю адыгрываюць цікавасць і прэсінг равеснікаў. Многія схіляюцца да дрэннай прывычкі пад уплывам благой кампаніі. Іншыя злоўжываюць алкаголем або наркотыкамі ў момантах душэўнага надлому. Цяпер такі стан духа наведвае людзей надта часта.

У Кнізе Прапаведніка (7: 7) чытаем: „Уціск даводзіць мудрага да дурноты". Калі хто падвяргнуўся цяжкім выпрабаванням і не можа справіцца з эмацыянальнымі пакутамі, можа, насуперак розуму, шукаць палёгкі ў алкаголю або наркотыках.

Нягледзячы на прычыны залежнасці ад атрутных рэчываў, хворы не знаходзіцца ў бязвыхадным — эмацыянальным ці матэрыяльным — становішчы. Кожны пакутуючы ад наркаманіі ці алкагалізму заўсёды можа пакарыстацца дапамогай.

Калі ты захварэў, твая дрэнная схільнасць, з эмацыянальнага пункту гледжання, становіцца тваім домам. А свой дом цяжка пакінуць нават на схіле гадоў. Гэта ж твае роднае гняздо. Таму парванне з хваравітай цягай можна параўнаць да выхаду з дому.

Хаця парванне з дрэннай схільнасцю бывае складаным, напэўна варта рашыцца на гэты подзвіг.

**(Лахім)**

# Сцяна Еўропы


*На станцыі ў Валілах.*

Міжнароднае шасэ з Беластока ў Баброўнікі нарэшце дачакалася рамонту. Пакладзены ўжо асфальт ад Сабалева да Вілаў. Асфальт той гладзенькі, зусім іншы чым астатнія тут дарогі і праездка па ім нагадвае нейкае падарожжа ў казачны чужы свет. Проста — Еўропа! Але вось у Вілах тая гладзь канчаецца і зноў падарожнік у сябе, быццам той казачны рыбак каля старое бабы і раскіданага карыта. Усе часткі „малюха" з азартам пачынаюць апавяшчаць мне пра незадавальненне сваёй сітуацыяй, быццам тыя падарожнікі, якія вярнуліся з шыкарнай замежнай паездкі. Раздаецца такая какафонія, быццам у беларускіх вярхах і адразу вядома, што тут зямелька родная.

На чыгуначнай станцыі ў Валілах велізарная сцяна, складзеная з сасновых дручкоў для шахтавых мацаванняў. Вакзал, відаць, нядаўна раскіданы, асталіся толькі разваліны печкі. Бо і слядоў пасажырскага руху тут не відаць.

Паварочваю ў Вераб'і. На палосцы перад вёскай двое пажылых людзей збіраюць бульбу. На канцы палоскі стаіць трактар з капалкай. Спыняюся перад школьным будынкам. Тут адбываецца нейкае дзяржаўнае свята: побач дзвярэй маркотна вісяць два дзяржаўныя сцягі і табліца, якая інфармуе, што школа пабудавана ў 1968 годзе. Навокал — жывое душы! На пляцы за будынкам шчыльна насыпаныя з самазвалаў кучы жвіру. Каб не сухое лета, можна было б сказаць, што школа патанае ў зелені, якая храбра акружыла будынак і з дапамогай часу рыхтуецца да штурму на святыню навукі. Бліжэй вуліцы пункт скупкі малака, які таксама ўжо „на пенсіі". І прыбіральня з закрытымі дротам дзвярыма.

Заходжу ў хату побач. Гаспадыня перабірае цыбулю. На мае пытанні наконт школы раіць шукаць адказу ў солтыса.

Падаюся да солтыса, прадстаўляюся. Гаспадар вёскі патрабуе ад мяне дакументы, каб упэўніцца, што я — я.

— Бо, — тлумачыць, — тут прыгранічная зона і войт загадаў з абыкім не гаварыць. І розныя ашуканцы ездзяць, толькі не такім гаўном, — тут мой суразмоўца паказвае мой „малюх", — але „Мерседэсамі".

Даведваюся, што вераб'ёўская школа спыніла сваю працу ў гэтым годзе. Вучылася тут 48 вучняў. Найбольш было з Лужан і Баброўнік; з Вераб'ёў было пяцёра дзяцей. На пытанне пра навезены вакол школы жвір солтыс адказвае, што ён быў пад спартыўную пляцоўку. Пытаю пра водаправод і тэлефоны.

— Войт прапанаваў пракладку водаправода, але замала было ахвотных на такую выгаду. А тэлефон быў у школе і калі трэба было ў нейкай справе званіць, людзі ішлі да прыбіральшчыцы побач, у якой былі ключы; цяпер ключы ад школы — у Гарадку. Войт абяцаў, што перанясе тэлефон у маю хату, але як за свае семнаццаць гадоў на пасадзе солтыса не было ў мяне тэлефона, так і цяпер няма. А найбліжэйшы тэлефонны апарат знаходзіцца два кіламетры ад Вераб'ёў, у прыватнай хаце, якой уласнік мала калі бывае дома, і калі б здарылася нейкая бяда, не будзе як клікаць дапамогу.

— Хопіць паставіць два слупы, каб правесці лінію ад школы да вас, — заўважаю.

— Ніякіх слупоў не трэба, бо лінія праходзіць у мяне перад вокнамі.

Мой суразмоўца сваю бульбу ўжо выкапаў. У яго ёсць усе сельскагаспадарчыя машыны. Капаў разам з жонкай. На маё пытанне, ці памагаюць дзеці, махнуў ён толькі рукою. Але зараз з гонарам заявіў, што яго сын з'яўляецца загадчыкам кафедры ў Галоўнай сельскагаспадарчай школе ў Варшаве і нават прапанавалі яму пасаду прадэкана, але адмовіўся, бо апошняя выбарная і калі б пасля не выбралі на наступны тэрмін, трэба было б шукаць, куды падзецца.

Яшчэ ў Вераб'ях падбіраю пасажыра. Калісь працаваў ён разам з Яўгенам Чыквіным на чыгунцы. Цяпер прадае адно яшчэ білеты на станцыі ў Зубках і апрача таго займаецца скупкай грыбоў. Жыве ў *функцыйнай* чыгуначнай кватэры каля станцыі. Карыстаюся нагодай пабачыць станцыю ў Зубках.


*На станцыі ў Зубках расце хваіна.*

Станцыйныя будынкі, у тым і *настаўня*, пустуюць; калі трэба перавесці стрэлкі, робіць гэта машыніст. Здзіўляе мяне бойкая хваінка, што вырасла на пуцях пасярод станцыі.

— Гэта „шырокія торы", — паясняе мой спадарожнік і паказвае збудаванне, пад якім калісь правяралі габарыты паяздоў. Калі поезд пад ім не месціўся, нельга было яго пусціць на ўсход.

За вёскаю, перад пераездам у напрамку Свіслачан, стаіць беласценны будынак па якім вецер гуляе. Заглядаю ў сярэдзіну: выглядае, што калісь быў там свінарнік, а сёння — „дом творчай працы" маладых „насценных філосафаў".

Каля Зуброў капаюць бульбу: на трох палетках па дзве асобы, на адным — тры. Перад маляўніча размешчанай школаю ў Зубрах грамадка дзяцей — чакаюць транспарту; возіць іх „Жук", а калі гміна атрымае *гімбус*, тады дзетак у зуброўскую школу будзе вазіць *асінобус*. Невядома як доўга гэта будзе трываць, бо ўжо ад некалькіх гадоў войт ліквідуе школу. Сёння вучацца ў ёй 53 вучні; найбольшы, трэці, клас налічвае дзевяць дзетак, а наймалодшых, пяці- і шасцігадовых, — па пяцёра. Беларускай мове не навучаюць тут ад пяці гадоў. Урокі апошняй адбываліся з раніцы, бацькі хацелі каб іх дзеткі паспалі і не стала каму наведваць згаданых урокаў.

— Толькі не пішыце пра нас нічога дрэннага, — прасілі настаўнікі.

На лавачцы ў Вейках пад апошнімі цёплымі прамянямі яшчэ летняга сонца грэюцца два мужчыны; спыняюся каля іх.

І ў Вейках няма водаправода. Мог быць, бо і запісалася патрэбная колькасць гаспадароў, аднак пасля некаторыя адмовіліся і не стала патрэбнага мінімуму. А тэлефоны паставілі ўсім ахвотным. Вялікая калісь вёска апусцела, хаця ў апошніх гадах некалькі чалавек вярнуліся, бо страцілі працу ў Беластоку. Перад намі даўно ўзведзеныя сцены незавершанага будынка; пытаю пра ўласніка.

— Не хапіла яму грошай і кінуў.

— А дзе ён цяпер?

— Дзяцей у Беластоку робіць.

Побач пункт прыёму малака, да якога прадукт пастаўляе ў прынцыпе адзін толькі гаспадар.

— Ён там, за паваротам, жыве, — паказваюць мае суразмоўцы.

— Многа ў яго кароў?

— А х...й яго ведае.

Вокны школьнага будынка ў Вейках закрыты аканіцамі. Побач — „Sklep przemysłowo-spożywczy". Навокал цішыня. За плотам, на школьным панадворку, каменем спачывае нейкі натруджаны спажывец.

У Гарадку даганяю грузавік нагружаны хваёвымі слупамі для шахтаў. Магчыма, што возіць ён іх на валілаўскую станцыю па інерцыі яшчэ. Калі ў жніўні быў я на Верхняй Сілезіі, не круціліся ўжо там шахтавыя колы, якія працавалі яшчэ годам раней. Следам за сілезскімі шахцёрамі трацяць працу чыгуначнікі і леснікі ў нас. Толькі там, на Сілезіі, рэгіён структурнага беспрацоўя, якому дапаможа дзяржава.

А ў нас? А ў нас на колішнім школьным будынку ў Вераб'ях лунаюць дзяржаўныя сцягі. Бо там — адзіны на ўсю вёску тэлефонны апарат! А ключы да яго — у Гарадку...

**Аляксандр Вярбіцкі**
*Фота аўтара*


*Школьны будынак у Вейках.*

## Няма дрэннага...

Чаромхаўскі рынак вабіць да сябе купцоў. Тут можна прадаць даражэй, як на іншых кірмашах. А пакупнікоў хопіць для ўсіх.

Нядаўна ў Чаромсе сустрэў я Уладзіміра Зіневіча з Бельска-Падляшскага. Па прафесіі ён майстар пчалаводства, а да нас завітаў з мёдам.

— Я ўжо другі раз у Чаромсе. І мёд прадаў. Новых пакупнікоў прыцягнуў. Людзі мне вашы спадабаліся. Толькі адну загану прыкмеціў на рынку: няма куды схадзіць за сваёй патрэбай. Гэта немагчыма, каб не было побач нужніка. І санэпідэмстанцыя можа прычапіцца і прыцягнуць ад адказнасці гмінных чыноўнікаў. Ды і гэта не па-чалавечаму спраўляць фізіялагічныя патрэбы недзе пад агароджай. А калі страўнік збунтуецца, то што тады?

Я згадзіўся з суразмоўцам. Бо ж гэта праўда. Але ёсць іншая праўда, пра якую не ведаюць многія наведвальнікі чаромхаўскага рынку, асабліва прыехаўшыя з-за мяжы беларускія турысты. Гміна прывяла ў карыстанне нужнік, які знаходзіцца за будынкам гміннай управы. На рыначнай агароджы павесіла ўказальнік з інфармацыяй, куды можна падацца да „WC”. Стрэлка паказвае ў напрамку будынка ЗДЗ, а іншая (па вуліцы Дзібуа) у напрамку гміны ў неакрэсленае месца (можна так дайсці да вагоннага дэпо і нічога не знайсці). А чаму б не павесіць яшчэ аднаго ўказальніка (са стрэлкай) і паказаць сапраўднае знаходжанне туалета?

Мо хто падумае, што гэта дробязь. Мне, аднак, здаецца, што для прыезджых гэта істотная справа. І калі б пра тое ведаў мой знаёмы з Бельска-Падляшскага, пэўна не прад'яўляў бы прэтэнзій у адрас гміны.

У народзе кажуць: „Няма таго дрэннага, каб на добрае не выйшла”. Гэту справу пакідаю пад развагу адказным чыноўнікам чаромхаўскага самаўрада. Паспрабуйце выправіць сваю памылку, даражэнькія, указальнікамі, бо гэта справа будзе смярдзець не ў вашу карысць.

**Уладзімір Сідарук**

## ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Прысніліся мне два цікавыя сны. Не ведаю, што яны могуць абазначаць.

Першы сон. З нейкім чалавекам мы прабіваліся праз тунель. Гэты тунель быў як бы ў зямлі. Але трэба сказаць, што мы праз гэты тунель праляцелі (быццам бы на ракеце) вельмі хутка. Хаця было там цесна, вузка і дарога станавілася ўсё вузейшая, то ў канцы тунеля я бачыла святло. Тут я і прачнулася.

Другі сон. Быццам я знаходжуся ў будынку школы, у нейкім класе. Я пачынаю сварыцца з адным чалавекам і біцца з ім. Гляджу: а божачкі, гэта ж Лукашэнка. Мы б'емся ў калідоры, нас бачаць усе. Ён нават распрануўся і быў у звычайнай цяльняшцы ў палоску. І змагаўся са мною, як са звычайным мужчынам. Не ведаю нават, што пра ўсё гэта думаць. Казалі, што школу сніць — гэта добра.

**Міраслава**

Міраслава! Твой першы сон (пра тунель) абазначае, што на тваёй жыццёвай дарозе стануць (ці нават ужо сталі) вялікія цяжкасці, перашкоды. Табе, аднак, удасца пераадолець гэтыя праблемы. Па-першае, у тунелі (хаця было там цесна і вузка) табе дапамагла ракета. А да таго ж яшчэ ў канцы дарогі было святло. Гэта дае надзею на добры зыход справы, хаця дарога да гэтага святла звужалася, станавілася ўсё больш цеснай.

Што датычыць другога сну, дык школа магла б абазначаць для цябе поспех і сямейныя радасці, калі б не тая бойка (незалежна, ад таго, з кім ты білася). Памятай, што ў сне заўсёды, калі б'ешся з кімсьці, ці б'еш дзіця або нават жывёлу, чакае цябе крыўда. У даным выпадку будзе нейкая страта або хвароба ў сям'і, смутак. Адным словам, нешта парушыць спакой, гармонію ў тваім доме. І... шануй здароўе.

**Астрон**

## На Пакрову 1946 года

Было гэта на Пакрову 1946 года ў Дубічах-Царкоўных; у нас гэта вялікае свята і фэст. Увечары моладзь зрабіла забаву ў хаце майго колішняга суседа Валодзі, бо ягоная хата была найбольшая ў вёсцы. Прыехалі роварамі і нават папрыходзілі пяшком хлопцы са Старога Корніна дый давай наводзіць свае парадкі кулакамі і нажамі. Узняўся віск і крык і дубічане спачатку разгубіліся і сталі адступаць назад, на двор. Але тут з'явіўся Валодзя Скварa ад нас — вялікі і адчайны задзіра. Сваім целам выбіў акно ў хаце, у якой адбывалася забава, уваліўся ў сярэдзіну і давай лупцаваць карнянскіх хлопцаў чым папала. Тут і рэшта дубічан далучылася да яго і пачалася страшэнная бойка. Пачуліся выстралы, бо зараз пасля вайны многія мелі зброю, аднак мелі столькі розуму, што стралялі ўверх, бо ведалі, чым пахне застрэліць чалавека. Карнянскіх задзіраў разагналі, але дваіх схаваліся на гару хаты. Аднак іх прыкмецілі і стары дужы Млодзян палез туды і аднаго скінуў у сені, а другі ўцёк праз дзірку ў даху, якую сам зрабіў. А таго ў сенях сталі лупцаваць, нават секачом, так, што амаль не забілі. У крыві і ранах уцёк ён — трэба лічыць, што дубічане адпусцілі яго.

**Мікалай Панфілюк**



## Прыродазнаўчы турызм — стымул развіцця рэгіёна



*На прыродазнаўчай сцежцы.*

— Адкрыццё новай прыродазнаўчай сцежкі з Масева ў Баб'ю-Гару і вышкі каля Семяноўскага заліву для назірання за птушкамі, а таксама абвяшчэнне рэзультатаў фатаграфічнага конкурсу і адкрыццё фотавыстаўкі „Прырода гміны Нараўка” завяршыла першы этап супрацоўніцтва нашага самаўрада з Агульнапольскім таварыствам аховы птушак, Арніталагічным таварыствам з Даніі, Надлясніцтвам Броўск і Ваяводскай управай меліярацыі ў Беластоку. Усялякія формы прыродазнаўчага турызму лічым стымулам развіцця нашага рэгіёна, — сказаў войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч.

Абвяшчэнне рэзультатаў фатаграфічнага конкурсу „Прырода гміны Нараўка” і адкрыццё фотавыстаўкі адбылося 10 верасня г.г. у Гмінным доме культуры ў Нараўцы. Конкурс аб'яўлены быў яшчэ вясною і пяць асоб прыняло ў ім удзел. На выстаўку, аформленую Войцехам Пацэвічам і Мар'яй Вайцяхоўскай трапіла больш за трыццаць фотаздымкаў.

Адкрыццё прыродазнаўчай сцежкі з Масева ў Баб'ю-Гару адбылося 11 верасня г.г. Састаўляюць яе дзве дарогі з Масева ў аколіцу Баб'яй-Гары (9 кіламетраў) і вакол Баб'яй-Гары каля Семяноўскага заліву (5 кіламетраў). Каля заліву, дзе сходзяцца дзве сцежкі, стаіць вышка для назірання за краявідам і птушкамі. Удзельнікі ўрачыстасці, якія хацелі прайсціся даўжэйшай дарогай, выйшлі ўжо апоўдні, крыху пазней тыя, якія ішлі вакол Баб'яй-Гары. Многія прыехалі на мерапрыемства машынамі, таму што да вежы ад Семяноўскага заліву добры даезд. На мерапрыемства (апрача афіцыйных асоб) прыбылі таксама жыхары навакольных вёсак, вучні падставовых школ і моладзь, якія ў якасці сувеніраў атрымалі кашулі з выявай дзятла.

— Супрацоўніцтва з Арніталагічным таварыствам з Даніі завязалася яшчэ ў мінулым годзе, пасля таго, як наведаў нас іх прадстаўнік Фрыдэрык Гедэман. Дзякуючы іх фінансавай дапамозе можна было правесці прыродазнаўчыя інвестыцыі і арганізаваць фатаграфічны конкурс, — растлумачыў войт Мікалай Павільч. — Апрача адкрытай сёння прыродазнаўчай сцежкі існуюць у нас два іншыя турыстычныя шляхі: з Белавежы ў Нараўку і з Косага Маста ў Масева. На іх можна знаёміцца з цікавай расліннасцю і назіраць за жыццём птушак. Ужо відаць зацікаўленне Белавежскай пушчай заходнееўрапейскіх турыстаў. Летам колькасць жыхароў Нараўкі з-за турыстаў павялічваецца ў 2 разы. Арганізаваныя групы прымаем у драўляных дамах Гміннага асяродка культуры (60 месцаў), у школьнай турбазе (50 месцаў) і ў памяшканнях Надлясніцтва Броўск (36 месцаў), дзе 18 месцаў гарантуюць сапраўды высокі, еўрапейскі ўзровень. Турыстаў прымаюць таксама жыхары Нараўкі, Семяноўкі, Ляўкова і Міклашэва ў агракватэрах. Аднак найбольш турыстаў прыязджае адпачываць на Семяноўскі заліў. У будучыні турызм у нашай гміне будзе развівацца, хаця цяжка разлічваць, што стане ён галоўнай крыніцай даходу нашых жыхароў.

**Аляксей Мароз**

*Фота Войцеха Пацэвіча*

## Начлежны дом для турыстаў

Над Семяноўскім вадасховішчам, у Рыбаках (Міхалоўская гміна) будуюць начлежны дом для турыстаў. Будзе ён адкрыты ўвесь год. Мабыць, тады прыязджаць сюды будзе больш ахвотных правесці свой свабодны час над прыпушчанскім возерам. У эксплуатацыю дом аддадуць у 2000 годзе. Права ўласнасці да яго будзе мець тамашняя гміна.

У будынку на першым паверсе будуць кацельня ды прыбіральні, а на другім — начлежныя пакойчыкі для турыстаў. На будове працуюць беспрацоўныя з Міхалоўскай гміны. Між іншым ужо закончылі тынкаванне сцен. **(гай)**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня:** Яўген Міранoвіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com

***Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1999 r. upływa 5 września 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę pocztą zwykłą — 35,55; pocztą lotniczą Europa — 44,15; Ameryka Płn., Płd., Środk., Afryka, Azja, Australia — 61,15. Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK S.A. XIII Oddział Warszawa 11101053-16551-2700-1-67.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,30 zł, a kwartalnie — 29,90 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка



Галерэя „Ніўкі”

## «Еўрасаюз, як ты мне мілы...»

Фота Міхала МІНЦЭВІЧА

Вандал АРЛЯНСКІ

Фрашкі пра нашых

## У Чаромху!

Дзве гадзіны і 55 хвілін
Цягнецца цягнік сярод хваін,
Сярод палёў зарослых палыном,
Дзе чалавека ўжо шукаць з агнём.

Хто сёння свой не эканоміць час
І перакорлівасці дух шчэ ў ім не згас,
Той сядзе у цягнік той яшчэ раз
І, едучы, палічыць усіх нас.

## Да газу!

Ляпнеш раз, а потым плаціш,
Траціш нервы, грошы траціш,
А сябры з табою разам
Ідуць, па прынцыпе, „да газу”.
Яшчэ крыху, і цэнзура
Абгародзіць розум мурам.
У беластоках цэнзар — богам.
Не пішу ўжо больш нічога!

## Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | *7* | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | *8* |
| | 10 *3* | *4* | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 *5* |
| *2* | ■ | 14 | *9* | 15 | ■ | *6* |
| 16 | | | | 17 *1* | | |

**Гарызантальна:** 1. цвёрды чахол для пісталета, 3. даглядае кароў, 5. спявак з гуслямі, 7. горад між Бруселем і Гентам, 9. абрэвіятура дзяржаўнай раённай электрастанцыі, 10. зорка ў сузор'і Авена, 11. брат Авеля, 12. узорыстае пакрывала на ложак, 14. дрэва сямейства вярбовых, 16. новая вестка, 17. выбар, адбор.

**Вертыкальна:** 1. воінскае званне малодшага камандзіра ў польскай арміі, 2. страва з утушаных кавалачкаў мяса, 3. даглядае кароў, 4. Эрнан, іспанскі канкістадор, заваёўнік Мексікі (1485—1547), 6. царкоўныя кнігі з парадкам дзеянняў свяшчэнніка падчас набажэнства (мн. лік), 8. псеўданім Іосіфа Джугашвілі, 9. тонкая драўляная дошчачка для крыцця даху, 11. калектыў людзей, аб'яднаных для супольнага жыцця, 13. збор, набор, 14. пашкоджанне тканак, 15. упакоўка.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 35 нумара**

**Гарызантальна:** перац, Лукашэнка, тайга, агама, Хам, палатно, адрыжка, рай, алыча, воцат, тэакратыя, сонца.

**Вертыкальна:** брашура, пекла, цынга, лейбарыст, асацыяцыя, трава, аскет, хор, май, абарона, аванс, вітка.

Рашэнне: **Сяргей Лукашук**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока і **Яну Карчэўскаму** з Гайнаўкі.

## Пра музыку

„Мастацтва належыць народу, — гаварыў Клары Цэткін У. І. Ленін. — Яно павінна паглыбляцца сваімі найглыбейшымі каранямі ў самую гушчу шырокіх працоўных мас. Яно павінна быць зразумелае гэтым масам і любімае імі. Яно павінна яднаць пачуцці, думкі і волю гэтых мас, паднімаць іх. Яно павінна разбуджаць у іх мастакоў і развіваць іх” (*Большая советская энциклопедия*, т. 40, с. 181).

„З першых гадоў існавання савецкай музыкі разгарнулася барацьба за высокую сацыялістычную ідэйнасць музычнага мастацтва, за сувязь музыкі з жыццём, з заданнямі рэвалюцыйнай перабудовы грамадства. У савецкай музычнай культуры былі канчаткова разбураны ілжывыя ідэалістычныя погляды, сцвярджаўшыя «пазарэальнасць», «абстрактнасць» музычнага мастацтва; савецкая музыка даказала, што музычнае мастацтва, нароўні з іншымі мастацтвамі, можа і павінна актыўна ўрывацца ў грамадскае жыццё” (там жа, т. 28, с. 514).

У сённяшні час, асабліва ў нашай найяснейшай краіне, цытата выказванняў самага класічнага класіка рэвалюцыйнай перабудовы грамадства можа выклікаць недаўменне, а мо нават прапанову для хадайніка публічнага інтарэсу каб неадкладна злюстраваць такога праўдзівага цытаталюба. Але вось у перадавой, у цяперашнім найяснейшым разуменні, краіне пралетарскія ідэі вялікага Ільіча праводзяцца ў жыццё, быццам там быў абавязак выконваць пастановы з'ездаў КПСС; Ленін вечна жывы цяпер не ў маўзалеі і бліжнім наваколлі, але за акіянамі ад яго; вось там музычнае мастацтва і ўрываецца ў жыццё.

Па ўсіх штатах самай імперыялістычнай дзяржавы свету гучыць сёння класічная музыка. Урываецца яна ў грамадскае жыццё не таму, што насельніцтва раптам разгарэлася любоўю да яе, але як зброя ў псіхалагічнай вайне, каб уздзейнічаць на нервы нежаданых наведвальнікаў вялікіх магазінаў, офісаў ці вакзалаў, якіх нельга прагнаць, але можна прымусіць шукаць іншае месца для бадзяння.

Новы подых выйшаў ад адной з агульнаамерыканскіх сетак прадуктовых магазінаў, якая пачала бамбардзіраваць свае паркінгі творамі Вівальдзі. Ідэю падхапілі гандлёвыя цэнтры і школы, дзе па традыцыі любяць збірацца падлеткі. Вушы моладзі, прывыклыя да дэцыбелаў гард-рока і хэві-металу, глухлі ад Шапэна і Брамса і яна стала мяняць месцы, дзе расплываецца класічная музыка. На адной з плошчаў Даласа, дзе збіраліся валацугі і папрашайкі, адміністрацыя паставіла акустычную сістэму, па якой стала пускаць фартэпіянныя канцэрты і оперы. І неўзабаве, як па камандзе, з плошчы прапалі і валацугі, і жабракі; іх асабліва нервавaў голас Лучана Паварoці. У адной са станцый метро ў Таронта, дзе часта здараліся пакражы, сталі таксама запускаць фантазіі Шапэна і злачыннасць выразна пайшла на спад. Падобны прыём прымянілі і на нью-ёркскім аўтобусным вакзале і ў выніку прапалі адтуль валацугі і кішэннікі. А вось у адным з арыштаў у штаце Каларада парушэцеляў грамадскага парадку прымушаюць па паўтары гадзіны слухаць музыку Бетховена.

Апошні прыклад паказвае новы шлях перавыхавання ізгояў грамадства. Бо ж не толькі музыку класікаў можна ім убіваць у вушы. Можна іх таксама прымушаць глядзець і авангардныя карціны ці слухаць творы класікаў літаратуры ў аўтарскім выкананні...

**Адам Маньяк**



Фота Міхала МІНЦЭВІЧА

## „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

— Чаму твая жонка пакідае нанач уключаны свет?

— Гэта на выпадак, калі б нашу кватэру задумаў наведаць нейкі ўзломшчык.

— То яна думае, што сёння ўзломшчыкам не хапае на ліхтарыкі?

* * *

З разбітага самахода выходзяць два п'яныя мужчыны. Падыходзіць да іх паліцыянт:

— Хто з вас вёў машыну?

— Ніхто: мы абое сядзелі на заднім сядзенні.

* * *

— Ці ты з'яўляешся сваяком майго суседа?

— Так, але даволі далёкім.

— А ён гаварыў, што вы — браты...

— Гэта праўда, толькі ён быў першым, а я сёмым.

* * *

Прызыўная камісія:

— Кім хочаце служыць? — пытаюць навабранца.

— Матросам.

— Плаваць умееце?

— А няма ў нашым флоце караблёў?

* * *

Гутараць дзве сяброўкі:

— Так хачу, каб мая дачка паводзіла сябе сёння так, як паводзіла, маючы дзесяць гадоў.

— А што яна тады рабіла?

— Панічна баялася чужых мужчын.

* * *

— Подлая! Прысягала, што выйдзе за мяне ды сарвала...

— Не гаруй! Мая яшчэ горшая: прысягала, што выйдзе за мяне і стрымала слова.